АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## АРФАГРАФІЯ. АРФАЭПІЯ. АКЦЭНТУАЦЫЯ. СЛОВАЗМЯНЕННЕ

Пад рэдакцыяй
акадэміка АН БССР
М. В. Бірылы

МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1987

ББК 81.2 Бел—4
С 48

Аўтарскі калектыў: *Г. У. Арашонкава* (Па — Падліванне, Перагнуцца — Пляткарыць, Спусціцца — Сячэнне, У, Ф, Х, Ц, Ч, Ш), *М. В. Бірыла* (Прадмова), *Л. І. Бурак* (Г, І, Э, Ю, Я), *Л. М. Грыгор'ева* (А, Крышталаграфічны — Кюрэ, Партатыўны — Перагнуты, Р), *З. Ф. Краўчанка* (В, Н), *Т. В. Кузьмянкова* (Б, М, Палегласць — Партатыўнасць, Пляц — Прыбліжаць, С — Спусцісты), *В. П. Лемцюгова* (Д, Е, Ё, Ж, Каагуліравацца — Крышталагідрат, Л, О, Падлівацца — Палевы, Прыбліжэнне — Пяяць, Т), *А. І. Падлужны* (З).

Рэдакцыйная калегія:

доктар філалагічных навук *А. І. Падлужны*,
кандыдаты фалалагічных навук
*Г. У. Арашонкава, Л. М. Грыгор'ева, В. П. Лемцюгова*

С $\frac{4602020000-001}{М318(05)-87}$ 11—87

## ПРАДМОВА

Штодзённая моўная практыка наглядна выяўляе надзвычайную складанасць і многааспектнасць пытанняў, звязаных з нормамі літаратурнай мовы. Усякая літаратурная мова здольна ажыццяўляць камунікацыю паміж членамі грамадства, якое яна абслугоўвае, у такой меры, у якой грамадству гэта неабходна. Наяўнасць літаратурных норм забяспечвае мове ўсюды, дзе яна пашырана, адзінства формы выражэння і зместу. Гэта робіць мову зразумелай і даступнай для ўсіх яе носьбітаў канкрэтнага гістарычнага перыяду і розных перыядаў, якія паслядоўна ідуць адзін за другім. Дзякуючы гэтаму забяспечваецца тэрытарыяльнае, прасторавае распаўсюджанне чалавечага вопыту, прагрэсу і гістарычная пераемнасць у гаспадарчай, культурнай і навуковай дзейнасці народа.

Моўная норма, такім чынам, рэгламентуе літаратурную мову і робіць яе стабільнай, здатнай доўгія вякі служыць паўнацэнным сродкам зносін у грамадстве. Аднак мова — з'ява жывая, не звязаная назаўсёды сваімі нормамі. Яна адэкватна і эластычна фіксуе ўсё новае, што з'яўляецца ў жыцці, выпрацоўваючы для гэтага новыя моўныя сродкі ці прыстасоўваючы існуючыя, і, разам з тым, выключае са свайго арсеналу ўсё непатрэбнае, што раней служыла для адлюстравання жывых рэалій, а пасля знікнення іх з жыцця страціла сэнс. Нормы літаратурнай мовы ўзаконьваюць, замацоўваюць канструктыўныя інавацыі, якія склаліся на працягу многавекавой практыкі, моўныя традыцыі, пазбаўляючы ці абмяжоўваючы гэтым самым пранікненне ў моўную практыку непатрэбных паралельных сродкаў (элементаў).

Асноўнай якасцю нормы, яе адметнай рысай з'яўляецца ўстойлівасць, стабільнасць. Але таму, што мова няспынна развіваецца, норма не можа быць устойліва-нязменнай, акасцянелай. На працяглы час яна замацоўвае асноўныя заканамернасці мовы, якія складаюць самую сутнасць яе. Другой уласцівасцю нормы з'яўляецца бесперапынная эвалюцыя элементаў розных яе структур, якая адлюстроўвае развіццё розных кампанентаў усіх узроўняў, узнікненне варыянтаў. Гэтыя дзве ўласцівасці нормы і забяспечваюць устойлівасць і развіццё мовы. Таму літаратурная мова, якой бы багатай і апрацаванай яна ні была, не мае раз назаўсёды замацаваных норм. У кожнай літаратурнай мове адбываецца паступовае намнажэнне фактаў, моўных сродкаў, якія прыводзяць да поўных змен, да эвалюцыі нормы, новага элемента ў развіцці мовы.

У розныя гістарычныя перыяды жыцця мовы ступень стабільнасці норм і інтэнсіўнасць іх эвалюцыі неаднолькавыя. У адны перыяды грамадства, якое карыстаецца канкрэтнай літаратурнай мовай, існуючыя моўныя нормы прымае «лая́льна», карыстаецца імі больш-менш аднадушна. У другія ж перыяды да той самай мовы ў членаў грамадства ўзнікае шэраг прэтэнзій, з'яўляецца неабходнасць палепшыць норму. Выяўляецца, што некаторыя нормы ўстарэлі і не адпавядаюць патрабаванням да сродкаў зносін, а таму з'явіліся новыя варыянты, больш адпаведныя новаму перыяду. У другіх выпадках па той самай прычыне ранейшыя дублетныя варыянты сталі літаратурнай нормай, адцясніўшы ў ранг дублетнага варыянта былую норму. Моўная практыка пры гэтым характарызуецца павелічэннем колькасці варыянтаў, дублетаў у лексіцы, словаўтварэнні, акцэнтуацыі, формазмяненні, сінтаксісе. Як правіла, рост тэндэнцыі да ўдакладнення норм звязаны з расшырэннем функцый літаратурнай мовы і павелічэннем колькасці яе карыстальнікаў.

Сучасная моўная пісьмовая практыка рэгламентуецца «Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959), падрыхтаванымі на аснове беларускага правапісу з улікам змен, спрашчэнняў і ўдакладненняў, якія былі ўнесены ў яго Пастановай СНК БССР у 1933 г. і Пастановай Савета Міністраў БССР у 1957 г., а таксама «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы» (т. 1—5, 1977—1984), беларускай часткай «Беларуска-рускага слоўніка» (Масква, 1962) і «Русско-белорусского словаря» (Масква, 1953; выд. 2, т. 1—2, Мінск, 1982), «Арфаграфічным слоўнікам» для сярэдняй школы М. П. Лобана і М. Р. Судніка (1948, 1961, 1966, 1971, 1978, 1982). Найбольш поўна

нормы ўсіх узроўняў беларускай літаратурнай мовы прадстаўлены ў «Граматыцы беларускай мовы» (т. 1—1962, т. 2—1966 і ў «Беларускай граматыцы» (ч. 1—1985, ч. 2—1986). Названыя і некаторыя іншыя слоўнікі, а таксама граматыкі адыгралі значную ролю ў стабілізацыі норм пісьмовай літаратурнай мовы, але па розных прычынах поўнасцю задаволіць патрэбы пісьмовай практыкі не маглі, таму што нават самы поўны звод правіл не можа прадугледзець і рэкамендаваць напісанне абсалютна ўсіх слоў мовы, бо ён уключае толькі найбольш агульныя правілы, па-за якімі застаюцца шматлікія прыватныя адхіленні. «Беларуска-рускі слоўнік», з'яўляючыся слоўнікам перакладнога тыпу, не дае форм зменных часцін мовы, выпадкаў раздзельнага напісання слоў і інш., таму не можа служыць у якасці універсальнага арфаграфічнага даведніка. «Арфаграфічны слоўнік» для сярэдняй школы з'яўляецца адзіным спецыяльным арфаграфічным даведнікам, але лексічны састаў яго вельмі абмежаваны (каля 15 тыс. слоў).

Такім чынам, пералічаныя працы, якія ў асноўным забяспечвалі патрэбы практыкі і садзейнічалі павышэнню культуры пісьмовай беларускай мовы, пакідалі па-за ўвагай шэраг пытанняў, вырашыць якія неабходна, каб забяспечыць узрастаючыя патрэбы моўнай практыкі зараз і ў будучым, стымуляваць уздым культуры мовы народа. Гэтым абумоўлена неабходнасць падрыхтоўкі поўнага арфаграфічнага слоўніка беларускай мовы.

Нормы літаратурнага вымаўлення звычайна складаюцца пазней, чым пісьмовыя правілы літаратурнай мовы. Таму распрацоўка вымаўленчых правіл, сістэматызацыя іх, кананізацыя вымаўлення, прывядзенне яго да нормы ажыццяўляецца ў апошнюю чаргу.

Выпрацоўка асноўных правіл вымаўлення, падрыхтоўка першых практычных рэкамендацый і дапаможнікаў адносіцца толькі да канца 50-х — пачатку 60-х гадоў гэтага стагоддзя. Тады арфаэпія разглядалася ў артыкуле М. В. Бірылы «Да пытання аб фарміраванні і важнейшых нормах беларускага літаратурнага вымаўлення» (Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук, 1958, № 3), у працах Ф. М. Янкоўскага «Беларускае літаратурнае вымаўленне» (1960), «Пытанні культуры мовы» (1961). Больш фундаментальна ў 70-я гады распрацоўваліся пытанні арфаэпіі ў працах А. І. Падлужнага «Нормы беларускага літаратурнага вымаўлення» [Сучасная беларуская мова (Пытанні культуры мовы), 1973], «Фанетыка і вымаўленне» (Белорусский язык для небелорусов, 1984; у сааўтарстве з А. А. Крывіцкім і А. Я. Міхневічам), а таксама ў раздзеле М. В. Бірылы і А. І. Падлужнага «Арфаэпія» (Беларуская граматыка, ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск, 1985). Наяўнасць пералічаных і іншых прац па арфаэпіі ў значнай меры кансалідавала нормы літаратурнага вымаўлення, прыцягнула ўвагу грамадскасці да гэтага пытання. Але аднаго толькі зводу правіл недастаткова. Патрэбны арфаэпічны даведнік-слоўнік, у якім на аснове ўліку і аналізу ўсіх магчымых выпадкаў спалучальнасці галосных і зычных гукаў пры маўленні і вынікаў іх узаемадзеяння, узаемаўплываў было б практычна паказана ўзорнае літаратурнае вымаўленне па магчымасці найбольшай колькасці слоў, якія функцыяніруюць зараз у літаратурнай мове.

Многа пытанняў, якія чакаюць непасрэднага вырашэння, звязана з акцэнтуацыяй. Слоўнікі, як правіла, паказваюць месца націску ў зыходных формах слоў. Пэўныя звесткі ёсць у розных вучэбных дапаможніках, граматыках, у акадэмічнай «Граматыцы беларускай мовы» (1962). Некаторыя аспекты месца націску ў парадыгме зменных слоў былі прадметам даследавання кандыдацкіх дысертацый. Важнейшымі работамі ў гэтай галіне з'яўляюцца дысертацыі і адпаведныя публікацыі М. П. Лобана «Націск назоўнікаў у беларускай літаратурнай мове» (Аўтарэферат канд. дыс., 1953), Я. М. Івашуціч «Націск дзеяслова ў сучаснай беларускай літаратурнай мове» (Аўтарэферат канд. дыс., 1971), Л. М. Вардамацкага «Слоўны націск назоўнікаў у сучасных усходне-славянскіх літаратурных мовах» (Аўтарэферат канд. дыс., 1974), дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў педагагічных інстытутаў БССР Я. М. Івашуціч «Націск у дзеяслоўных формах сучаснай беларускай мовы» (1981).

Некаторыя назіранні над акцэнтнымі тыпамі назоўнікаў і дзеясловаў пададзены ў артыкулах М. В. Бірылы «Націск невытворных аднаскладовых назоўнікаў мужчынскага роду» («Беларуская лінгвістыка», вып. 14, 1978), «Націск» [«Сучасная беларуская мова (Пытанні культуры мовы)», 1973]. У «Беларускай граматыцы» (ч. 1, 1985) акцэнтуацыя беларускай літаратурнай мовы распрацавана больш падрабязна. На аснове аналізу месца націску ў парадыгме пераважнай большасці ўжывальных зараз у літаратурнай мове слоў устаноўлены акцэнтныя тыпы зменных часцін мовы, лексічны састаў кожнага акцэнтнага тыпу, магчымыя дублетныя варыянты і зафіксаваныя адхіленні. Аднак такая работа, хоць і дае даволі выразны агульны малюнак акцэнтнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы, усё ж

не можа быць падручным даведнікам па канкрэтных пытаннях пастаноўкі націску. Таму неабходны слоўнік націску ў беларускай мове. «Слоўнік беларускай мовы» з'яўляецца даведнікам па арфаграфіі, арфаэпіі, акцэнтуацыі і словазмяненні. На думку аўтараў, ён запоўніць тыя прабелы, пра якія гаварылася вышэй, будзе садзейнічаць далейшаму павышэнню культуры беларускай літаратурнай мовы. Сумяшчэнне ў адной працы чатырох аспектаў дазволіць чытачу атрымаць з адной крыніцы неабходныя даведкі пра напісанне і вымаўленне пераважнай большасці слоў, месца націску ў зыходных словах і іх формах, самі гэтыя формы, што бытуюць у беларускай літаратурнай мове ў наш час.

У фарміраванні рэестра «Слоўніка беларускай мовы» прымалі ўдзел Л. І. Бурак, Л. М. Грыгор'ева, Н. П. Колас, З. Ф. Краўчанка, Т. В. Кузьмянкова, В. П. Лемцюгова, А. І. Падлужны, Г. Дз. Тумас.

Папаўненне рэестра і частковае афармленне машынапісу праведзена малодшымі навуковымі супрацоўнікамі В. А. Бабковай, Г. Л. Варажун, Л. С. Дашкевіч, В. Р. Зялёнка, Л. А. Ліхадзіеўскай, І. Б. Мятліцкай, Т. П. Піліповіч, В. П. Русак, Л. І. Сакаловай, Н. А. Чабатар.

Н. П. Колас па першапачатковаму варыянту Інструкцыі распрацоўвала словы на літары Е, Ё, Ж, О; Г. Дз. Тумас распрацаваў частку слоў на літару П.

Машынапіс «Слоўніка беларускай мовы» падрыхтаваны малодшымі навуковымі супрацоўнікамі Н. М. Граковіч, І. П. Сідарэвіч і старшым лабарантам Ж. П. Івановай.

Аўтарскі калектыў выказвае ўдзячнасць акадэміку АН БССР доктару філалагічных навук К. К. Атраховічу (Кандрату Крапіве) за кансультацыі і парады ў працэсе падрыхтоўкі слоўніка на ўсіх этапах, рэцэнзентам — кафедры беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (загадчык — прафесар, доктар філалагічных навук Л. М. Шакун), доктару філалагічных навук А. І. Яновіч, кандыдату філалагічных навук Т. Ф. Сцяшковіч, таксама рэдакцыі народнай асветы і беларускіх слоўнікаў выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі ў складзе загадчыка рэдакцыі кандыдата філалагічных навук І. У. Саламевіча, старшых навуковых рэдактараў А. І. Казачок, Н. П. Саламевіч, навуковага рэдактара Т. М. Грынько, рэдактара Г. І. Дайлідавай, малодшага рэдактара Т. А. Меляшкевіч.

## СКЛАД СЛОЎНІКА

У аснову рэестра слоўніка пакладзены рэестр «Беларуска-рускага слоўніка» (Масква, 1962), які значна папоўнены за кошт лексічнай картатэкі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР і рэестра «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (т. 1—5, 1977—1984).

У слоўнік уключана ўся зафіксаваная ў названых крыніцах лексіка літаратурнай мовы, словаўтваральныя і акцэнтныя варыянты слоў, якія сустракаюцца ў творах мастацкай літаратуры і знайшлі адлюстраванне ў слоўніках, з адпаведнымі паметамі аб іх стылёвым статусе ў літаратурнай мове. У слоўнік уключаны і важнейшыя геаграфічныя назвы — назвы сталіц саюзных рэспублік і абласных цэнтраў, сталіц і некаторых буйнейшых гарадоў іншых краін, назвы краін, некаторых мораў і астравоў, раённых і абласных цэнтраў БССР.

У слоўнік не ўключаны дзеепрыслоўі, уласныя назвы людзей (прозвішчы, імёны).

Памяншальныя формы назоўнікаў і прыметнікаў прыводзяцца толькі ў выпадках, калі яны вылучаюцца арфаграфіяй ці месцам націску.

Словы ў слоўніку размешчаны ў алфавітным парадку.

Пры наяўнасці арфаграфічных, акцэнтных ці словаўтваральных варыянтаў адзін з іх рэкамендуецца як норма, а другі падаецца ў якасці дапушчальнага варыянта (дублета). Калі па алфавіту яны займаюць месца побач, то падаюцца ў адным артыкуле: першым — слова, якое лічыцца нормай, пасля (з паметай або без яе) і яго варыянт:

**арангута́н** *і* **арангута́нг** *адпаведна* -на, -не, -наў; -га, -гу, -гаў

**барсучаня́** *і* **барсучанё** *рознаскл., для абодвух РДМ* -ня́ці, *Т* -нём, *мн.* -ня́ты, -ня́т, -ня́там, -ня́тамі, -ня́тах

**ласяня́** *і* **ласянё** *рознаскл., для абодвух РДМ* -ня́ці, *Т* -нём, *мн.* -ня́ты, -ня́т, -ня́там, -ня́тамі, -ня́тах

Калі ж дублеты ў алфавіце стаяць у розных месцах, кожны з іх прыводзіцца і распрацоўваецца на сваім алфавітным месцы і забяспечваецца адпаведнымі паметамі. Слова, якое лічыцца нормай, распрацоўваецца як і ўсякае іншае, а пасля апошняй формы суадносіцца з варыянтным (дублетным) словам паметай *і*. Словы-варыянты пасля адпаведнай распрацоўкі паметай *часцей* адсылаюцца да слова, якое лічыцца нормай:

**абабе́гчы** [хч] *зак.*, абабягу́, абабяжы́ш, -ы́ць, -ы́м, абабежыце́, абабягу́ць *і* **аббе́гчы, абе́гчы**

**аббе́гчы** [хч] *зак.*, аббягу́, аббяжы́ш, -ы́ць, -ы́м, аббежыце́, аббягу́ць, *часцей* **абабе́гчы**

**абе́гчы** [хч] *зак.*, абягу́, абяжы́ш, -ы́ць, -ы́м, абежыце́, абягу́ць, *часцей* **абабе́гчы**

**барвава́ць** *незак.*, барву́ю, -у́еш, -у́е, -у́юць *і* **барво́віць, барвяні́ць**

**барво́віць** *незак.*, -о́ўлю, -о́віш, -о́віць, -о́вяць, *часцей* **барвава́ць**

**барвяні́ць** *незак.*, -ню́, -ні́ш, -ні́ць, -ня́ць, *часцей* **барвава́ць**

**барваве́ць** *незак.*, -е́ю, -е́еш, -е́е, -е́юць *і* **барво́вець, барве́ць, барвяне́ць, барвяні́цца**

**барве́ць** *незак.*, -е́ю, -е́еш, -е́е, -е́юць, *часцей* **барваве́ць**

**барво́вець** *незак.*, -ею, -ееш, -ее, -еюць, *часцей* **барваве́ць**

**барвяне́ць** *незак.*, -е́ю, -е́еш, -е́е, -е́юць, *часцей* **барваве́ць**

**барвяні́цца** *незак.*, -ню́ся, -ні́шся [сься], -ні́цца, -ня́цца, *часцей* **барваве́ць.**

Значэнне слоў падаецца толькі ў тым выпадку, калі ад яго залежыць канчатак, месца націску ў формах змянення або розпаўжывальнасць форм:

**абла́зіць** *(лазіць у многіх месцах) разм.*, *зак.*, абла́жу, абла́зіш, -зіць, -зяць; *(ліняць) незак.*, -зіць, -зяць

**дуб** *(дрэва)* ду́ба, ду́бе, *мн.* дубы́, дубо́ў; *(драўніна і зб.)* ду́бу, ду́бе

**сардэ́чнік** *(пра хворага ці ўрача) разм.*, -ка, -ку, -каў; *(кветка)* -ку

Месца націску абазначаецца ва ўсіх загалоўных словах (акрамя аднаскладовых і слоў, у якіх націск падае на арфаграфічнае ё), ва ўсіх формах змянення, калі яны падаюцца поўнасцю (акрамя форм, у якіх націск падае на арфаграфічнае ё), а таксама ў формах, пададзеных у скарочаным выглядзе, калі націск падае на прыведзеную частку формы. Калі форма прыведзена ў скарочаным выглядзе і на ёй націск не абазначаны, гэта значыць месца яго такое, як і ў папярэдняй форме.

Формы змянення поўнасцю падаюцца толькі тады, калі ў аснове іх ёсць чаргаванне гукаў ці змяняецца месца націску і калі формы складаюцца з невялікай колькасці літар:

**абвары́ць** *зак.*, абвару́, абва́рыш, -рыць, -рым, -рыце, -раць

**абвясці́ць** [сьці] *зак.*, абвяшчу́, абве́сціш [сьці], -ціць, -цім, -ціце, -цяць *і* абвяшчу́, абвясці́ш [сьці], -ці́ць, -ці́м, абвесціце́, абвясця́ць

**дах** да́ху, на да́ху, да́хаў

**нага́** назе́, *мн.* но́гі, ног, нага́м, нага́мі, нага́х

**са́ні** сане́й

**сець** се́ці, се́цей *і* се́цяў

Парадак падачы матэрыялу ў слоўнікавых артыкулах наступны: рэестравае слова — асаблівасці вымаўлення — значэнне слова — паметы (стылёвыя, граматычныя) — формы змянення з указаннем асаблівасцей вымаўлення — адсылкі.

## ПАДАЧА ФОРМ

У слоўніку падаюцца формы назоўнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў і дзеясловаў. Родавыя і склонавыя формы прыметнікаў не прыводзяцца, таму што яны рэгулярныя, стабільныя, не выклікаюць цяжкасцей ні пры напісанні, ні пры вымаўленні.

Калі формы прыводзяцца ў скарочаным выглядзе, яны скарачаюцца да апошняй агульнай для ўсіх іх літары, г. зн. да той літары, пасля якой у розных формах слова неаднолькавае напісанне:

**абвяза́ць** *зак.*, абвяжу́, абвя́жаш, -жа, -жам, -жаце, -жуць

**вы́ган** *с.-г.*, -ну, -не, -наў; *(дзеянне)* -ну, -не

**насе́нне** [ньне] -нні

**свякру́ха** -у́се, -у́х

Выбар форм для падачы ў слоўніку абумоўлены марфалагічнымі прычынамі — наяўнасцю дублетных варыянтаў форм і неабходнасцю паказаць месца націску, калі ён рухомы.

## ФОРМЫ НАЗОЎНІКАЎ

Для назоўнікаў жаночага роду на -а(-я) падаюцца формы давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку і роднага склону множнага ліку:

**анке́та** -е́це, -е́т

**друка́рня** -рні, -рань *і* -рняў

**наста́ўніца** -цы, -ц

**размо́ва** -о́ве, -о́ў

Для назоўнікаў, якія не маюць формы множнага ліку, падаюцца толькі формы давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку:

**інтэнсіфіка́цыя** -ыі [ыйі]
**канюшы́на** -не
**пава́га** -а́зе
**салідарыза́цыя** -ыі [ыйі]

Для назоўнікаў жаночага роду з чыстай асновай падаюцца формы творнага склону адзіночнага ліку і роднага склону множнага ліку:
**мадэ́ль** -ллю [льлю], -лей *і* -ляў
**плынь** -нню [ньню], -ней *і* -няў
**сенажа́ць** -ццю [цьцю], -цей *і* -цяў
**я́касць** [сьць] -цю [сьцю], -цей *і* -цяў

Калі назоўнік не мае формы множнага ліку, падаецца толькі форма творнага склону адзіночнага ліку:
**галасі́стасць** [сьць] -цю
**дасве́дчанасць** [сьвеччанасьць] -цю
**калекты́ўнасць** [сьць] -цю
**свядо́масць** [сьвя] [сьць] -цю

Для назоўнікаў мужчынскага роду, якія канчаюцца на зычны і маюць нерухомы націск, падаюцца формы роднага і меснага склонаў адзіночнага ліку і роднага склону множнага ліку:
**аа́зіс** -са, -се, -саў
**камба́йн** -на, -не, -наў
**манта́жнік** -ка, -ку, -каў
**салю́т** -ю́та, -ю́це, -ю́таў

Для назоўнікаў, якія не маюць формы множнага ліку, падаюцца толькі формы роднага і меснага склонаў адзіночнага ліку:
**валідо́л** *фарм.*, -лу, -ле
**нато́ўп** -пу, -пе
**тлушч** -чу, -чы
**хмызня́к** [зьня] -ку́
**шыфо́н** -ну, -не

Для назоўнікаў, якія маюць рухомы націск — у парадыгме адзіночнага ліку на аснове, а ў парадыгме множнага ліку на канчатку,— падаецца яшчэ і форма назоўнага склону множнага ліку:
**кнот** кно́та, -о́це, *мн.* кнаты́, -то́ў
**лес** ле́су, ле́се, *мн.* лясы́, лясо́ў
**сват** сва́та, сва́це, *мн.* сваты́, -то́ў
**склеп** -па, -пе, *мн.* скляпы́, -по́ў

Для назоўнікаў мужчынскага роду на -а падаюцца формы давальнага, меснага і творнага склонаў адзіночнага ліку і роднага склону множнага ліку:
**ваяво́да** *гіст., м., Д* -ду, *Т* -дам, *М* -дзе, *мн. Р* -д
**мужчы́на** *м., Д* -ну, *Т* -нам, *М* -не, *мн. Р* -н
**прамо́ўца** *м., ДМ* -цу, *Т* -цам, *мн. Р* -цаў
**ста́раста** *м., Д* -сту, *Т* -стам, *М* -сце [сьце], *мн. Р* ста́раст *і* -стаў

Для назоўнікаў ніякага роду з нерухомым націскам даецца форма меснага склону адзіночнага ліку і роднага склону множнага ліку:
**вучы́лішча** -чы, -ч *і* -чаў
**ка́ліва** -іве, -іў *і* -іваў
**ко́ла** -ле, -лаў
**сне́данне** [сьнеданьне] -нні, -нняў
**шы́ла** -ле, -лаў

Для назоўнікаў з рухомым націскам падаецца таксама і форма назоўнага склону множнага ліку:
**верацяно́** -не́, *мн.* верацёны, -н *і* -наў
**гняздо́** -дзе́ [зьдзе], *мн.* гнёзды, -д *і* -даў
**дупло́** -ле́, *мн.* ду́плы, -лаў; *з ліч. 2, 3, 4* — дуплы́
**сяло́** сяле́, *мн.* сёлы, сёл *і* сёлаў

Пры адсутнасці формы множнага ліку даецца толькі форма меснага склону адзіночнага ліку:
**адраджэ́нне** [ньне] -нні
**будаўні́цтва** -ве
**вярчэ́нне** [ньне] -нні
**садо́ўніцтва** -ве

Для рознаскланяльных назоўнікаў ніякага роду на -ня/-нё, якія абазначаюць маладых істот, прыводзяцца ўсе формы:
**лісяня́** *і* **лісянё** *рознаскл., для абодвух РДМ* -ня́ці, *Т* -нём, *мн.* -ня́ты, -ня́т, -ня́там, -ня́тамі, -ня́тах
**цяля́** *і* **цялё** *рознаскл., для абодвух РДМ* -ля́ці, *Т* -лём, *мн.* -ля́ты, -ля́т, -ля́там, -ля́тамі, -ля́тах

Для назоўнікаў агульнага роду на -а (якія могуць абазначаць і асобу мужчынскага і асобу жаночага полу) падаюцца формы давальнага, меснага

і творнага склонаў адзіночнага ліку і роднага склону множнага ліку асобна для мужчынскага і для жаночага роду:

**абдзіра́ла** *разм., агульн., м. Д* -лу, *Т* -лам, *М* -ле, *ж. ДМ* -ле, *Т* -лай *і* -лаю, *мн. Р* -л

**задава́ка** *разм., агульн., м. ДМ* -а́ку, *Т* -а́кам, *ж. ДМ* -а́цы, *Т* -а́кай *і* -а́каю, *мн. Р* -а́к

**самаву́чка** *агульн., м. ДМ* -чку, *Т* -чкам, *ж. ДМ* -чцы [цц], *Т* -чкай *і* -чкаю, *мн. Р* -чак

Назвы нацый (народаў) і прадстаўнікоў нацый (народаў) даюцца ў 3 артыкулах:

**абха́з** [пх] -за, -зе, -заў
**абха́зка** [пхаск] -зцы [сц], -зак
**абха́зы** [пх] -заў
**армя́не** -н
**армянін** -на, -не, -наў
**армя́нка** -нцы, -нак
**румы́н** -на, -не, -н *і* -наў
**румы́нка** -нцы, -нак
**румы́ны** -н *і* -наў

Назоўнікі, што абазначаюць парныя прадметы (боты, лыжы) і некаторыя іншыя, якія часцей ужываюцца ў форме множнага ліку (абгаворы), але маюць і формы адзіночнага ліку (бот, лыжа, абгавор), падаюцца на алфавітным месцы формы множнага ліку:

**бо́ты** *(абутак)* бо́таў, *адз.* бот, бо́та, бо́це
**абгаво́ры** -раў, *адз.* абгаво́р, -ру, -ры
**лы́жы** лы́жаў, *адз.* лы́жа, лы́жы

Форма адзіночнага ліку ў такім разе ў якасці загалоўнага слова на сваім алфавітным месцы не даецца. Калі такія назоўнікі ў форме адзіночнага ліку маюць прыстаўны зычны, то гэта форма падаецца на сваім алфавітным месцы:

**абады́** -до́ў, *адз.* во́бад
**во́бад** -да, -дзе, *мн.* абады́, -до́ў

Назоўнікі, што маюць варыянтныя формы множнага ліку, якія пачынаюцца рознымі літарамі, у форме адзіночнага і множнага ліку даюцца на сваіх алфавітных месцах з адпаведнай распрацоўкай і адсылкай:

**аблокі** -каў, *адз.* во́блака, *часцей* **во́блакі**
**во́блака** -ку, *мн.* во́блакі *і* абло́кі, во́блакаў *і* абло́каў
**во́блакі** -каў, *адз.* во́блака *і* **абло́кі**

## ФОРМЫ ДЗЕЯСЛОВАЎ

Для дзеясловаў з нерухомым націскам і нязменнай асновай падаюцца формы першай, другой і трэцяй асобы адзіночнага ліку і трэцяй асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу:

**саджа́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**трыма́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**цісну́ць** *незак.*, -ну, -неш, -не, -нуць

Формы ўсіх асоб цяперашняга (будучага простага часу) падаюцца:

а) для дзеясловаў з рухомым націскам:

**каці́ць** *незак.*, качу́, ко́ціш, ко́ціць, ко́цім, ко́ціце, ко́цяць
**насі́ць** *незак.*, нашу́, но́сіш, но́сіць, но́сім, но́сіце, но́сяць
**салі́ць** *незак.*, салю́, со́ліш, со́ліць, со́лім, со́ліце, со́ляць

б) для дзеясловаў, у якіх усе асабовыя формы маюць націскную флексію:

**браць** *незак.*, бяру́, бярэ́ш, бярэ́, бяро́м, берацé, бяру́ць
**глядзе́ць** *незак.*, -джу́, -дзі́ш, -дзі́ць, -дзі́м, гледзіцé, глядзя́ць
**мяць** *незак.*, мну, мнеш, мне, мнём, мняцé, мнуць
**садзьму́ць** *зак.*, -му́, -ме́ш, -ме́, -мём, -мяцé, -му́ць

в) для дзеясловаў, у якіх у аснове адбываецца чаргаванне:

**садра́ць** *зак.*, здзяру [зьдзя], -рэ́ш, -рэ́, -ро́м, здзерацé, здзяру́ць

Для часткі дзеясловаў, якія характарызуюцца нестандартным формаўтварэннем, даюцца формы загаднага ладу і формы прошлага часу:

**абдзе́рці** *зак.*, абдзяру́, -рэ́ш, -рэ́, -ро́м, абдзерацé, абдзяру́ць; абдзёр, абдзе́рла, -лі, *часцей* **абадра́ць**
**вы́пісаць** *зак.*, вы́пішу, -шаш, -ша, -шуць; вы́пішы
**со́хнуць** *незак.*, -ну, -неш, -не, -нуць; сох, со́хла, -лі

## ФОРМЫ ЛІЧЭБНІКАЎ І ЗАЙМЕННІКАЎ

Для лічэбнікаў падаюцца ўсе склонавыя формы:

**восемсо́т** *ліч.*, *Р* васьмісо́т, *Д* васьміста́м, *Т* васьмюста́мі, *М* васьміста́х

**пяць** *ліч., РДМ* пяці́, *Т* пяццю́
**пяцьдзеся́т** *ліч., РДМ* пяці́дзесяці, *Т* пяццю́дзесяццю [цьцю]
**трына́ццаць** *ліч., РДМ* трына́ццаці, *Т* трына́ццаццю [цьцю]

Для займеннікаў кожная форма (мужчынскага, жаночага і ніякага роду, формы адзіночнага і множнага ліку) даецца на сваім алфавітным месцы з усімі склонавымі формамі:

**сам** *займ., Р* само́га, *Д* само́му, *ТМ* самі́м
**сама́** *займ., РДМ* само́й, *В* саму́ *і* саму́ю, *Т* само́й *і* само́ю
**са́мі** *займ., РМ* самі́х, *Д* самі́м, *Т* самі́мі
**само́** *займ., Р* само́га, *Д* само́му, *ТМ* самі́м

## АРФАЭПІЯ

Вымаўленне слоў і іх форм адлюстроўваецца ў слоўніку літарамі беларускага алфавіту ў іх агульнапрынятым фанетычным значэнні. Калі ў напісанні слова ці яго формы адлюстроўваецца літаратурнае вымаўленне, арфаэпічная норма асобна не падаецца:

**дамята́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**дар** да́ру, да́ры, *мн.* дары́, -ро́ў
**памы́ць** *зак.*, -ы́ю, -ы́еш, -ы́е, -ы́юць

Калі літаратурнае вымаўленне слова ці формы не супадае з іх палітарным чытаннем, пасля загалоўнага слова ці пасля яго формы ў квадратных дужках падаецца вымаўленне.

**дро́гкасць** [хкасьць]...
**узвелічэ́нне** [зьве] [ньне]...
**узле́зці** [узьлесьці]...

У слоўніку паказана вымаўленне спалучэнняў зычных, калі ў іх назіраецца асіміляцыя глухіх і звонкіх, цвёрдых і мяккіх, шыпячых і свісцячых, выбухных і афрыкатыўных зычных, а таксама паяўленне [й] перад [і]. Аглушэнне звонкіх зычных на канцы слова не адлюстроўваецца.

Калі ў слове ці форме патрэбна паказаць вымаўленне толькі часткі слова (а вымаўленне ўсёй астатняй часткі зразумела з напісання), у квадратных дужках падаецца толькі гэты фрагмент:

**даве́дка** [тк] -дцы [цц], -дак
**даве́зці** [сьці] *зак.*, давязу́, -зе́ш, -зе́, -зём, давезяце́, давязу́ць; давёз, даве́зла, -лі [зьлі]
**даго́львацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца

Велічыня адрэзка слова, які падаецца ў квадратных дужках, абумоўлена наступнымі фактарамі:

1) калі ў спалучэнні зычных трэба паказаць асіміляцыю аднаго ці некалькіх зычных па звонкасці-глухасці, падаецца ўсё спалучэнне зычных без наступнай галоснай:

**абструга́ць** [пстр]...
**барацьба́** [дзьб]...
**пае́здка** [стк]...

2) калі ў спалучэнні зычных трэба паказаць асіміляцыю аднаго ці некалькіх зычных па цвёрдасці-мяккасці, падаецца ўсё спалучэнне зычных разам з наступнай галоснай ці літарай ь, якія абазначаюць мяккасць папярэдняга зычнага:

**намага́нне** [ньне]...
**узго́рыстасць** [сьць]...

3) калі ў адной з форм якога-небудзь слова трэба паказаць вымаўленне большай яго часткі, чым тая, якая прыведзена для адлюстравання словазмянення, у квадратных дужках падаецца вымаўленне таго адрэзка, які апушчаны пры скарачэнні:

**агрызну́цца** *зак.*, -ну́ся, -не́шся [зьнесься]...
**абме́рзнуць** *зак.*, -ну, -неш [рзьне]...

Вымаўленне, паказанае ў квадратных дужках, адносіцца да папярэдняй формы, але калі трапляецца тоесная пазіцыя ў адной ці некалькіх наступных формах, то вымаўленне адносіцца і да іх, а таму пасля падобных форм не падаецца:

**абме́рзнуць** *зак.*, -ну, -неш [рзьне], -не, -нуць
**дабе́льванне** [ньне] -нні
**сумле́ннасць** [сьць] -цю

Калі некалькі форм маюць тоесную фанетычную структуру фрагмента, вымаўленне якога паказана пры першай з іх, а паміж імі стаяць формы з іншай структурай таго ж фрагмента, вымаўленне яго, паказанае пры першай з форм, пашыраецца на ўсе наступныя аж да той, якая мае іншую фанетычную структуру, а пры першай пасля яе форме зноў указваецца вымаўленне (калі яно не адлюстравана ў напісанні):

**абрасці́** [сьці] *зак.*, -сту́, -сце́ш [сьце], -сце́, -сцём, -сцяце́, -сту́ць

## СПІС ПРЫНЯТЫХ СКАРАЧЭННЯЎ

*абл.*— абласное слова
*ав.*— авіяцыя
*агульн.*— агульны род (мужчынскі і жаночы)
*адз.*— адзіночны лік
*адуш.*— адушаўлёны
*анат.*— анатомія
*антр.*— антрапалогія
*археал.*— археалогія
*архіт.*— архітэктура
*астр.*— астраномія
*бакт.*— бактэрыялогія
*бат.*— батаніка
*біял.*— біялогія
*буд.*— будаўніцтва
*бухг.*— бухгалтэрыя
*в.*— востраў
*В* — вінавальны склон
*ваен.*— ваенная справа
*вет.*— ветэрынарыя
*воз.*— возера
*выбухн.*— выбухны (гук)
*выкл.*— выклічнік
*высок.*— высокі стыль
*г.*— горад
*гандл.*— гандлёвая справа
*геагр.*— геаграфія
*геад.*— геадэзія
*геал.*— геалогія
*гідр.*— гідралогія
*гіст.*— гісторыя
*г. п.*— гарадскі пасёлак
*горн.*— горная справа
*грам.*— граматыка
*груб.*— грубае
*Д* — давальны склон
*дзеепрым.*— дзеепрыметнік
*дзеепрысл.*— дзеепрыслоўе
*дып.*— дыпламатыя
*ж.*— жаночы род
*жыв.*— жывапіс
*заал.*— заалогія
*займ.*— займеннік
*зак.*— закончанае трыванне
*зал.*— залежны стан
*зб.*— зборны назоўнік
*зв.*— зваротак
*злучн.*— злучнік
*знач.*— значэнне
*зневаж.*— зневажальнае
*інф.*— інфінітыў
*іран.*— іранічнае
*карт.*— тэрміны гульняў у карты
*кніжн.*— кніжны стыль
*кравец.*— кравецкая справа
*кул.*— кулінарыя
*ласк.*— ласкальная форма
*лаянк.*— лаянкавае слова
*лес.*— лесаводства
*лінгв.*— лінгвістыка
*літ.*— літаратура, літаратуразнаўства
*ліч.*— лічэбнік
*лог.*— логіка
*м.*— мужчынскі род
*М* — месны склон
*мар.*— марская справа
*маст.*— мастацтвазнаўства
*мат.*— матэматыка
*мед.*— медыцына
*метэар.*— метэаралогія
*мін.*— мінералогія
*міф.*— міфалогія
*мн.*— множны лік
*муз.*— музыка
*Н* — назоўны склон
*н.*— ніякі род
*наз.*— назоўнік
*нар.-паэт.*— народна-паэтычнае слова
*неадабр.*— неадабральнае
*неадуш.*— неадушаўлёны
*незак.*— незакончанае трыванне
*нескл.*— нескланяльнае слова
*пагард.*— пагардлівае
*палеант.*— палеанталогія
*палігр.*— паліграфія
*паліт.*— палітыка
*паляўн.*— паляўнічая справа
*памянш.* — памяншальная форма
*памянш.-зніж.*—памяншальна-зніжальная форма
*памянш.-ласк.*— памяншальна-ласкальная форма
*паэт.*— паэтычнае слова
*перан.*— пераноснае значэнне
*прал.*— праліў
*прым.*— прыметнік
*прыназ.*— прыназоўнік
*прысл.*— прыслоўе
*псіхал.*— псіхалогія
*пчал.*— пчалаводства
*Р* — родны склон
*р.*— рака
*разм.*— размоўнае слова
*рознаскл.* — рознаскланяльны назоўнік
*рыб.*— рыбалоўства, рыбаводства
*рэл.*— рэлігія
*с.-г.*— сельская гаспадарка
*сад.*— садаводства
*спарт.*— фізкультура і спорт
*спец.*— спецыяльны тэрмін
*Т* — творны склон
*тэатр.*— тэатразнаўства, тэатр
*тэкст.*— тэкстыльная справа
*тэх.*— тэхніка
*у розн. знач.*— у розных значэннях
*уст.*— устарэлае
*фарм.*— фармакалогія
*фіз.*— фізіка
*фізіял.*— фізіялогія
*філал.*— філалогія
*філас.*— філасофія
*фін.*— фінансавая справа
*фота* — фотасправа
*хім.*— хімія
*царк.*— царкоўнае; што мае адносіны да царквы
*царк.-кніжн.* — царкоўна-кніжнае слова
*цясл.*— цяслярская справа
*часц.*— часціца
*чыг.*— чыгуначная справа
*шав.*— шавецкая справа
*шахм.*— шахматны тэрмін
*эк.*— эканоміка
*эл.*— электратэхніка
*энт.*— энтанімічнае
*этн.*— этнічнае
*юр.*— юрыдычная справа

# А

а (*назва літары, якая абазначае гук* [а]), *н., нескл., злучн., часц., выкл., прыназ.*
**аага́мія** *біял.*, -іі [ійі]
**ааго́ній** *бат.*, -ія, -іі [ійі]
**аа́зіс** -са, -се, -саў
**аа́зісны**
**аалагі́чны**
**ааліт** *мін.*, -і́ту, -і́це
**аало́гія** *біял.*, -іі [ійі]
**аамы́нскі**
**Аамы́нь** *г., ж.*, Аамы́нню [нью]
**ААН** [аан] (*Арганіза́цыя Аб'ядна́ных На́цый) ж., нескл.*
**аа́наўскі**
**аарта́льны** *анат.*
**ааспо́ра** *біял.*, *-ры*
**Аа́хен** *г.*, Аа́хена, Аа́хене
**аа́хенскі**
**аб** *прыназ.*
**аба** *прыназ.:* аба мне *і* аба ўсім, аба ўсёй, аба ўсіх
**аба́бак** -бка [пк], -бку, -бкаў
**абабе́гаць** *зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць *і* **аббе́гаць**
**абабе́гчы** [хч] *зак.*, абабягу́, абабяжы́ш, -ы́ць, -ы́м, абабежыце́, абабягу́ць *і* **аббе́гчы, абе́гчы**
**абабіва́нне** [нье] -нні, *часцей* **абіва́нне**
**абабіва́цца** *незак.*, -а́ецца, -а́юцца, *часцей* **абіва́цца**
**абабіва́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць, *часцей* **абіва́ць**
**абабі́ты**
**аба́біцца** *разм., зак.*, -блюся, -бішся [сься], -біцца, -бяцца
**абабі́цца** *зак.*, -б'юся, -б'е́шся [сься], -б'е́цца, -б'ёмся, -б'яце́ся, -б'ю́цца
**абабі́ць** *зак.*, -б'ю́, -б'е́ш, -б'е́, -б'ём, -б'яце́, -б'юць
**абабра́ны**
**абабра́цца** *зак.*, абяру́ся, -рэ́шся [сься], -рэ́цца, -ро́мся, аберацё́ся, абяру́цца *і* **абра́цца**
**абабра́ць** *зак.*, абяру́, -рэ́ш, -рэ́, -ро́м, аберацё́, абяру́ць
**абабяга́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць, *часцей* **абяга́ць**
**абавя́зак** -зку [ск], -зкаў
**абавя́заны**
**абавяза́цельства** -ве, -ваў
**абавяза́цца** *зак.*, абавяжу́ся, абавя́жашся [сься], -жацца, -жамся, -жацеся, -жуцца
**абавяза́ць** *зак.*, абавяжу́, абавя́жаш, -жа, -жам, -жаце, -жуць
**абавя́звацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**абавя́зваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**абавязко́ва** [ск] *прысл.*
**абавязко́васць** [ск] [сьць] -цю
**абавязко́вы** [ск]
**абагаві́ць** *зак.*, -аўлю́, -аві́ш, -аві́ць, -аві́м, -авіце́, -авя́ць, *часцей* **абогатвары́ць**
**абагатво́раны** *і* **абагаўлё́ны**
**абагаўле́нне** [нье] -нні, *часцей* **абогатварэ́нне**
**абагаўля́цца** *незак.*, -я́юся, -я́ешся [сься], -я́ецца, -я́юцца, *часцей* **абогатвара́цца**
**абагаўля́ць** *незак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць, *часцей* **абогатвара́ць**
**абагаці́цца** *зак.*, -ачу́ся, -аці́шся [сься], -аці́цца, -аці́мся, -аціце́ся, -ацяцца
**абагаці́ць** *зак.*, -ачу́, -аці́ш, -аці́ць, -аці́м, -аціце́, -аця́ць
**абагача́льнасць** [сьць] *тэх.*, -цю
**абагача́льнік** -ка, -ку, -каў
**абагача́льніца** -цы, -ц
**абагача́льны**
**абагача́цца** *незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца
**абагача́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**абагачэ́нне** [нье] -нні
**абагна́ны**
**абагна́ць** *зак.*, абганю́, абго́ніш, -ніць, -нім, -ніце, -няць
**абагну́ты**
**абагну́цца** *зак.*, -ну́ся, -не́шся [сься], -не́цца, -нёмся, -няце́ся, -ну́цца
**абагну́ць** *зак.*, -ну́, -не́ш, -не́, -нём, -няце́, -ну́ць
**абаграва́льнік** -ка, -ку, -каў
**абаграва́льны**
**абаграва́нне** [нье] -нні
**абаграва́цца** *незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца
**абаграва́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**абагрэ́ты**
**абагрэ́ў** -э́ву, -э́ве
**абагрэ́цца** *зак.*, -э́юся, -э́ешся [сься], -э́ецца, -э́юцца
**абагрэ́ць** *зак.*, -э́ю, -э́еш, -э́е, -э́юць
**абагу́ленасць** [сьць] (*аграмаджанасць*) -цю
**абагу́ленне** [нье] (*аграмаджанне*) -нні, -нняў
**абагу́лены** (*аграмаджаны*)
**абагу́ліцца** (*аграмадзіцца*) *зак.*, -ліцца, -ляцца
**абагу́ліць** (*аграмадзіць*) *зак.*, -лю, -ліш, -ліць, -ляць
**абагу́льванне** [нье] (*аграмаджванне*) -нні
**абагу́львацца** (*аграмаджвацца*) *незак.*, -аецца, -аюцца
**абагу́льваць** (*аграмаджваць*) *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**абагу́льнена-сімвалі́чны**
**абагу́льненасць** [сьць] -цю
**абагульне́нне** [нье] -нні, -нняў
**абагу́льнены**
**абагу́льніцца** *зак.*, -ніцца, -няцца
**абагу́льніць** *зак.*, -ню, -ніш, -ніць, -нім, -ніце, -няць
**абагульня́цца** *незак.*, -я́ецца, -я́юцца
**абагульня́ць** *незак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць
**абаджга́ны** [*выбухн. г*] *разм.*
**абаджга́цца** [*выбухн. г*] *разм., зак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца
**абаджга́ць** [*выбухн. г*] *разм., зак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**абадзьму́ты** *і* **абдзьму́ты**
**абадзьму́ць** *зак.*, -му́, -ме́ш, -ме́, -мём, -мяце́, -му́ць *і* **абдзьму́ць**
**абадко́вы** [тк]
**абадне́цца** *разм., зак.*, -е́ецца
**абадо́к** абадка́ [тк], -ку́, -ко́ў

**абадóчны**
**абадрáнец** *разм.*, -нца, -нцу, -нцаў
**абадрáнка** *разм.*, -нцы, -нак
**абадрáны** *і* **абдзёрты**
**абадрáцца** *зак.*, абдзярýся, -рэ́шся [сься], -рэ́цца, -рóмся, абдзерацéся, абдзярýцца; абадрáўся, -áлася, -áліся *і* **абдзéрціся**
**абадрáць** *зак.*, абдзярý, -рэ́ш, -рэ́, -рóм, абдзерацé, абдзярýць; абадрáў, -áла, -áлі *і* **абдзéрці**
**абадь́і** -дóў, *адз.* вóбад
**абажрáцца** *разм.*, *груб.*, *зак.*, абажрýся, -рэ́шся [сься], -рэ́цца, -рóмся, -рацéся, -рýцца; абажрáўся, -áлася, -áліся, (не) абажры́ся, -рэ́мся, -ры́цеся *і* **абжэ́рціся**
**абажýр** -ра, -ры, -раў
**абажýрны**
**абáз** *(манета)* -за, -зе, -заў
**абазвáны**
**абазвáцца** *зак.*, абзавýся, -вéшся [сься], -вéцца, -вёмся, -вяцéся, -вýцца *і* **азвáцца**
**абазвáць** *зак.*, абзавý, -вéш, -вé, -вём, -вяцé, -вýць
**абазíн** -на, -не, -наў
**абазíнка** -нцы, -нак
**абазíнскі**
**абазíны** -наў
**абазнавáцца** *незак.*, абазнаю́ся, -аéшся [сься], -аéцца, -аёмся, -аяцéся, -аю́цца
**абазнáцца** *зак.*, -áюся, -áешся [сься], -áецца, -áюцца
**абазнáчаны**
**абазначáцца** *незак.*, -áецца, -áюцца
**абазначáць** *і* **абазнáчваць** *незак.*, *адпаведна* -áю, -áеш, -áе, -áюць; -аю, -аеш, -ае, -аюць
**абазнáчыцца** *зак.*, -чыцца, -чацца
**абазнáчыць** *зак.*, -чу, -чыш, -чыць, -чаць
**абазначэ́нне** [ньне] -нні, -нняў
**абáк** *і* **абáка** *адпаведна* -ка, -ку, -каў; -áцы, -áк
**Абакáн** *г.*, Абакáна, Абакáне
**абакáнскі**
**абакрáдзены** *і* **абкрáдзены**
**абакрáсці** [сьці] *зак.*, -áду, -áдзеш, -áдзе, -áдуць *і* **абкрáсці**
**абаламýціць** *разм.*, *зак.*, -ýчу, -ýціш, -ýціць, -ýцяць
**абаламýчаны**
**абалванéлы** *разм.*
**абалвáнены** *разм.*
**абалванéць** *разм.*, *зак.*, -éю, -éеш, -ée, -éюць
**абалвáніць** *разм.*, *зак.*, -ню, -ніш, -ніць, -няць
**абалвáньванне** [ньне] -нні
**абалвáньваць** *разм.*, *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**абаліцыянíзм** *гіст.*, -му, -ме
**абаліцыянíст** *гіст.*, -ста, -сце [сьце], -стаў
**абаліцыянíсцкі**
**абалóна** *(нізкае месца ў даліне ракі)* -не, -н *і* **абалóнне**
**абалóна** *(слой драўніны)* -не, -н *і* **абалóнь**
**абалóністы**
**абалóнка** -нцы, -нак
**абалóнне** [ньне] -нні, -нняў, *часцей* **абалóна**
**абалóнны**
**абалóнь** -нню [нью], -ней *і* -няў, *часцей* **абалóна**
**абамкнýць** *зак.*, -нý, -нéш, -нé, -нём, -няцé, -нýць
**абамлéлы**
**абамлéць** *зак.*, -éю, -éеш, -ée, -éюць
**абамшэ́лы** *часцей* **абымшэ́лы**
**абамшэ́ць** *зак.*, -э́е, -э́юць, *часцей* **абымшэ́ць**
**абанемéнт** -нта, -нце [ньце], -нтаў
**абанемéнтны**
**абанéнт** -нта, -нце [ньце], -нтаў
**абанéнтка** -тцы [нтц], -так
**абанéнтны**
**абанéнцкі**
**абанíраванне** [ньне] -нні
**абанíраваны**
**абанíравацца** *зак. і незак.*, -руюся, -руешся [сься], -руецца, -руюцца
**абанíраваць** *зак. і незак.*, -рую, -руеш, -руе, -руюць
**абанкрýціцца** *зак.*, -ýчуся, -ýцішся [сься], -ýціцца, -ýцяцца
**абáпал** *прысл.*, *прыназ. і* **наабáпал**
**абапéрці** *зак.*, абапрý, -рэ́ш, -рэ́, -рóм, -рацé, -рýць; абапёр, абапéрла, -лі *і* **апéрці**
**абапéрціся** *зак.*, абапрýся, -рэ́шся [сься], -рэ́цца, -рóмся, -рацéся, -рýцца; абапёрся, абапéрлася, -ліся *і* **апéрціся**
**абапёрты**
**абапінáцца** *разм.*, *незак.*, -áюся, -áешся [сься], -áецца, -áюцца
**абапінáць** *разм.*, *незак.*, -áю, -áеш, -áе, -áюць
**абапірáцца** *незак.*, -áюся, -áешся [сься], -áецца, -áюцца *і* **апірáцца**
**абапірáць** *незак.*, -áю, -áеш, -áе, -áюць *і* **апірáць**
**абапíцца** *разм.*, *зак.*, -п'ю́ся, -п'éшся [сься], -п'éцца, -п'ёмся, -п'яцéся, -п'ю́цца; абапíўся, -íлáся, -ілóся, -іліся *і* **апíцца**
**абапíць** *разм.*, *зак.*, -п'ю́, -п'éш, -п'é, -п'ём, -п'яцé, -п'ю́ць; абапíў, -ілá, -ілó, -ілí
**абапнýты** *разм.*
**абапнýцца** *разм.*, *зак.*, -нýся, -нéшся [сься], -нéцца, -нёмся, -няцéся, -нýцца
**абапнýць** *разм.*, *зак.*, -нý, -нéш, -нé, -нём, -няцé, -нýць *і* **абапя́ць**
**абапраўлáць** *незак.*, -áю, -áеш, -áе, -áюць
**абапрэ́лы**
**абапрэ́ць** *зак.*, -э́ю, -э́еш, -э́е, -э́юць
**абапя́ць** *разм.*, *зак.*, -пнý, -пнéш, -пнé, -пнём, -пняцé, -пнýць, *часцей* **абапнýць**
**абараназдóльнасць** [сьць] -цю
**абараназдóльны**
**абарáнак** -нка, -нку, -нкаў
**абарáначнік** *разм.*, -ка, -ку, -каў
**абарáначніца** *разм.*, -цы, -ц
**абарáначны**
**абаранíцца** *зак.*, абаранюся, абарóнішся [сься], -ніцца, -німся, -ніцеся, -няцца
**абаранíць** *зак.*, абараню́, абарóніш, -ніць, -нім, -ніце, -няць
**абарáнкам** *прысл.*
**абарáны**
**абараня́льны** *часцей* **абарóнчы**
**абараня́цца** *незак.*, -я́юся, -я́ешся [сься], -я́ецца, -я́юцца
**абараня́ць** *незак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць
**абарáць** *зак.*, -рý, -рэ́ш, -рэ́, -рóм, -рацé, -рýць
**абарачáльнасць** [сьць] *спец.*, -цю
**абарачáльны**
**абарачáцца** *незак.*, -áюся, -áешся [сься], -áецца, -áюцца
**абарачáць** *незак.*, -áю, -áеш, -áе, -áюць
**абарачэ́нне** [ньне] -нні, *часцей* **абарóт**
**абарвáны**
**абарвáцца** *зак.*, -вýся, -вéшся [сься], -вéцца, -вёмся, -вяцéся, -вýцца
**абарвáць** *зак.*, -вý, -вéш, -вé, -вём, -вяцé, -вýць
**абардáж** *мар.*, -жу, -жы
**абардáжны**
**абармóт** *разм.*, -óта, -óце, -óтаў
**абармóтка** *разм.*, -тцы [цц], -так
**абарóг** -óга, -óзе, -óгаў
**абарóна** -не

**абаро́нец** *гіст. паліт.*, -нца, -нцу. -нцаў
**абаро́нніцкі** [ньні]
**абаро́нніцтва** [ньні] *гіст. паліт.*, -ве
**абаро́нны**
**абаро́нца** *агульн., м. ДМ* -цу, *Т* -цам, *ж. ДМ* -цы, *Т* -цай *і* -цаю, *мн. Р* -цаў
**абаро́нча-ма́савы**
**абаро́нчы** *і* **абараня́льны**
**абаро́т** -о́ту, -о́це, -о́таў *і* **абарачэ́нне**
**абаро́так** *разм.*, -тку
**абаро́тлівасць** [сьць] -цю
**абаро́тлівы**
**абаро́тнасць** [сьць] *спец.*, -цю
**абаро́тны**
**абаро́цісты** *разм.*
**абаро́чванне** [ньне] -нні
**абаро́чвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**абаро́чваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**абарты́ўны** *спец.*
**абарыге́н** -на, -не, -наў
**абарыге́нны**
**абаспа́цца** *разм., зак.*, -сплюся, -спішся [сьпісься], -спіцца, -спімся, -спіцеся, -спяцца
**абасса́цца** *разм., зак.*, -ссу́ся, -ссе́шся [сьсесься], -ссе́цца, -ссёмся, -ссяце́ся, -ссу́цца
**аба́т** -а́та, -а́це, -а́таў
**абаткну́ты**
**абаткну́ць** *зак.*, -ну́, -не́ш, -не́, -нём, -няце́, -ну́ць
**абаты́са** -се, -с
**аба́цкі**
**аба́цтва** -ве, -ваў
**аба́члівa** *прысл.*
**аба́члівасць** [сьць] -цю
**аба́члівы**
**абая́льна** *прысл.*
**абая́льнасць** [сьць] -цю
**абая́льны**
**абая́нне** [ньне] -нні
**аббе́гаць** *зак.*, -аю, -аеш, -ае. -аюць, *часцей* **абабе́гаць**
**аббе́гчы** [хч] *зак.*, аббягу́, аббяжы́ш, -ы́ць, -ы́м, аббежыце́, аббягу́ць, *часцей* **абабе́гчы**
**аббіва́нне** [ньне] *разм.*, -нні, *часцей* **абіва́нне**
**аббіва́цца** *незак.*, -а́ецца, -а́юцца, *часцей* **абіва́цца**
**аббіва́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць, *часцей* **абіва́ць**
**аббраха́ць** *разм., зак.*, аббрашу́, аббрэ́шаш, -ша, -шам, -шаце, -шуць *і* **абраха́ць**
**аббудава́цца** *разм., зак.*, аббуду́юся, -у́ешся [сься], -у́ецца, -у́юцца
**аббудава́ць** *зак.*, аббуду́ю, -у́еш, -у́е, -у́юць
**аббудо́ўванне** [ньне] -нні
**аббудо́ўвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**аббудо́ўваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**аббэ́рсаны** *разм.*
**аббэ́рсаць** *разм., зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**аббэ́рсваць** *разм., незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**аббяга́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць, *часцей* **абяга́ць**
**абвадне́нне** [ньне] -нні
**абвадні́ць** *зак.*, абвадню́, абво́дніш, -ніць, -нім, -ніце, -няць
**абвадня́льны**
**абвадня́цца** *незак.*, -я́ецца, -я́юцца
**абвадня́ць** *незак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць
**абва́жаны**
**абва́жванне** [ньне] -нні
**абва́жвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**абва́жваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**абва́жыцца** *зак.*, -жуся, -жышся [сься], -жыцца, -жацца
**абва́жыць** *зак.*, -жу, -жыш, -жыць, -жаць
**абва́л** -лу, -ле, -лаў
**абвалава́нне** [ньне] *буд.*, -нні, -нняў
**абвалава́ны**
**абвалава́ць** *зак.*, абвалу́ю, -у́еш, -у́е, -у́юць
**абвалака́льны**
**абвалака́нне** *і* **абвала́кванне** [ньне] *для абодвух* -нні
**абвалака́цца** *і* **абвала́квацца** *незак., адпаведна* -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца; -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**абвалака́ць** *і* **абвала́кваць** *незак., адпаведна* -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць; -аю, -аеш, -ае, -аюць
**абвалачы́** *зак.*, -аку́, -ачэ́ш, -ачэ́, -ачо́м, -ачаце́, -аку́ць
**абвалачы́ся** *зак.*, -аку́ся, -ачэ́шся [сься], -ачэ́цца, -ачо́мся, -ачаце́ся, -аку́цца
**абва́лены**
**абва́лісты**
**абвалі́цца** *зак.*, абвалю́ся, абва́лішся [сься], -ліцца, -лімся, -ліцеся, -ляцца
**абвалі́ць** *зак.*, абвалю́, абва́ліш, -ліць, -лім, -ліце, -ляць
**абва́лка** *спец.*, -лцы
**абвало́ўвацца** *буд., незак.*, -аецца, -аюцца
**абвало́ўваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**абвало́чаны**
**абва́льванне** [ньне] -нні
**абва́львацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**абва́льваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**абва́льны**
**абвандрава́ць** *зак.*, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е, -ру́юць
**абвапнава́цца** *спец., зак.*, -ну́ецца, -ну́юцца
**абвапно́ўванне** [ньне] -нні
**абвапно́ўвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**абва́раны**
**абва́рванне** [ньне] -нні
**абва́рвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**абва́рваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**абвары́цца** *зак.*, абвару́ся, абва́рышся [сься], -рыцца, -рымся, -рыцеся, -рацца
**абвары́ць** *зак.*, абвару́, абва́рыш, -рыць, -рым, -рыце, -раць
**абваскава́ць** *зак.*, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е, -ку́юць
**абвастра́цца** *незак.*, -а́ецца, -а́юцца
**абвастра́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**абвастры́цца** *зак.*, абво́стрыцца, -рацца
**абвастры́ць** *зак.*, абвастру́, абво́стрыш, -рыць, -рым, -рыце, -раць
**абвастрэ́нне** [ньне] -нні
**абвашчы́ць** *зак.*, абвашчу́, абво́шчыш, -чыць, -чым, -чыце, -чаць
**абвашы́вець** *разм., зак.*, -ею, -ееш, -ее, -еюць
**абве́дзены**
**абве́зены**
**абве́зці** [сьці] *зак.*, абвязу́, -зе́ш, -зе́, -зём, абвезяце́, абвязу́ць; абвёз, абве́зла, -злі [зьлі]
**абве́йванне** [ньне] -нні
**абве́йвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца, *часцей* **абвява́цца**
**абве́йваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць, *часцей* **абвява́ць**
**абве́ргнуты**
**абве́ргнуць** *зак.*, -ну, -неш, -не, -нуць
**абве́рчаны**
**абве́рчвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**абве́рчваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**абве́сіцца** *зак.*, -е́шуся, -е́сішся [сься], -е́сіцца, -е́сяцца

**радыёзо́нд** -да, -дзе [ньдзе], -даў
**радыёзо́рка** -рцы, -рак
**радыёі́мпульс** -су, -се
**радыёінжыне́р** -ра, -ру, -раў
**радыёінсцэніро́ўка** -о́ўцы, -о́вак
**радыёінтэрв'ю́** *н., нескл.*
**радыёінтэрферо́метр** *астр.*, -ра, -ры, -раў
**радыёінфарма́цыя** -ыі [ыйі]
**радыёкама́нда** -дзе [ньдзе], -д
**радыёкама́ндны**
**радыёкамба́йн** -на, -не, -наў
**радыёкамента́рый** -ыя, -ыі [ыйі], -ыяў
**радыёкамента́тар** -ра, -ру, -раў
**радыёкамітэ́т** -э́та, -э́це
**радыёкампазі́цыя** -ыі [ыйі], -ый
**радыёкампа́нія** -іі [ійі]
**радыёкампара́тар** -ра, -ры, -раў
**радыёкана́л** -ла, -ле, -лаў
**радыёканта́кт** -кту, -кце, -ктаў
**радыёкантро́ль** -лю, -лі
**радыёканцэ́рт** -рта, -рце, -ртаў
**радыёкарпара́цыя** -ыі [ыйі]
**радыёкарэспандэ́нцыя** -ыі [ыйі], -ый
**радыёкаска́д** -да, -дзе
**радыёкінаўстано́ўка** -о́ўцы, -о́вак
**радыёкірава́нне** [ньне] -нні
**радыёклу́б** -ба, -бе, -баў
**радыёко́мпас** -са, -се, -саў
**радыёко́мплекс** -су, -се, -саў
**радыёкро́пка** -пцы, -пак
**радыёку́рсы** -саў
**радыёла** -ле, -л
**радыёлаг** -га, -гу, -гаў
**радыёлака́тар** -ра, -ры, -раў
**радыёлакацы́йны**
**радыёлака́цыя** -ыі [ыйі]
**радыёле́тапіс** -са, -се, -саў
**радыёліз** -зу, -зе
**радыёлі́нія** -іі [ійі], -ій
**радыёло́т** -о́та, -о́це, -о́таў
**радыёлюбі́цель** -ля, -лю, -ляў, *часцей* **радыёама́тар**
**радыёлюбі́цельскі** *часцей* **радыёама́тарскі**
**радыёлюбі́цельства** -ве, *часцей* **радыёама́тарства**
**радыёля́мпа** -пе, -п *і* -паў
**радыёмайстэ́рня** -рні, -рань *і* -рняў
**радыёманта́ж** -жу́, -жы́
**радыёманцёр** [ньцё] -ра, -ру, -раў
**радыёмаскіро́ўка** -ўцы
**радыёмаста́цтва** -ве
**радыёмаўча́нне** [ньне] -нні
**радыёма́чта** -чце, -чтаў
**радыёмая́к** -ка́, -ку́, -ко́ў
**радыёме́тад** -ду, -дзе
**радыёме́тр** *фіз.*, -ра, -ры, -раў
**радыёметры́ст** -ста, -сце [сьце], -стаў
**радыёметэаралагі́чны**
**радыёметэароло́гія** -іі [ійі]
**радыёметэаро́граф** -фа, -фе, -фаў
**радыёметэаро́лаг** -га, -гу, -гаў
**радыёметэацэ́нтр** -ра, -ры, -раў
**радыёмеха́нік** -ка, -ку, -каў
**радыёмо́ст** -ста, -сце [сьце], *мн.* радыёмасты́, -то́ў
**радыёнавіга́тар** -ра, -ру, -раў
**радыёнавігацы́йны**
**радыёнавіга́цыя** -ыі [ыйі]
**радыёнаві́ны** -н
**радыёнаву́шнікі** -каў, *адз.* радыёнаву́шнік, -ка, -ку
**радыёнавядзе́нне** [ньне] -нні
**радыёназіра́нні** [ньні] -нняў, *адз.* радыёназіра́нне, -нні
**радыёна́рыс** -са, -се, -саў
**радыёпаглына́льны**
**радыёпазыу́ны́я** *наз.*
**радыёпанара́ма** -ме, -м
**радыёпастано́ўка** -о́ўцы, -о́вак
**радыёпе́ленг** -га, -гу, -гаў
**радыёпеленгава́нне** [ньне] -нні
**радыёпеленга́тар** -ра, -ры, -раў
**радыёпеленга́тарны**
**радыёпеленга́цыя** -ыі [ыйі]
**радыёперагаво́ры** -раў
**радыёперада́тчык** [чч] -ка, -ку, -каў
**радыёперада́ча** -чы, -ч
**радыёпераклі́чка** -чцы [цц], -чак
**радыёперасо́ўка** -о́ўцы, -о́вак
**радыёперахва́т** -а́ту, -а́це
**радыёперашко́ды** -д, *адз.* радыёперашко́да, -дзе
**радыёп'е́са** -се, -с
**радыёпіло́т** *фіз.*, -о́та, -о́це, -о́таў
**радыёпіра́т** *разм.*, -а́та, -а́це, -а́таў
**радыёпіра́цтва** *разм.*, -ве
**радыёпо́шук** -ка, -ку, -каў
**радыёправадны́**
**радыёпрагно́з** -зу, -зе, -заў
**радыёпражэ́ктар** -ра, -ры, -раў
**радыёпразры́сты**
**радыёпраме́нь** -е́ня, -е́ні, *мн.* радыёпраме́ні *і* -мяні́, -ме́няў *і* -мянёў
**радыёпрамысло́васць** [сьць] -цю
**радыёпрапага́нда** -дзе [ньдзе]
**радыёпрыбо́р** -ра, -ры, -раў
**радыёпрыём** -му, -ме
**радыёпрыёмнік** -ка, -ку, -каў
**радыёпрыёмны**
**радыёпубліцы́ст** -ста, -сце [сьце], -стаў
**радыёпубліцы́стыка** -ыцы
**радыёразве́дка** [зьветк] -дцы [цц]
**радыёру́бка** [пк] -бцы [пц], -бак
**радыёру́пар** -ра, -ры, -раў
**радыёрэда́кцыя** -ыі [ыйі], -ый
**радыёрэжысёр** -ра, -ру, -раў
**радыёрэле́** *н., нескл.*
**радыёрэле́йны**
**радыёрэпарта́ж** -жу, -жы, -жаў
**радыёрэпарцёр** -ра, -ру, -раў
**радыёрэпраду́ктар** -ра, -ры, -раў
**радыёрэфле́ктар** -ра, -ры, -раў
**радыёрэ́ха** -ху
**радыёсветлавы́** [сьве]
**радыёсеа́нс** -са, -се, -саў
**радыёсекста́нт** *астр.*, -нта, -нце [ньце]
**радыёсе́тка** -тцы [цц], -так
**радыёсігна́л** -лу, -ле, -лаў
**радыёсістэ́ма** -ме, -м
**радыёскапі́я** *мед.*, -і́і [ійі]
**радыёслу́жба** -бе
**радыёслуха́ч** -ча́, -чу́, -чо́ў
**радыёслуха́чка** -чцы [цц], -чак
**радыёспартсме́н** [рцмэн] -на, -не, -наў
**радыёспекта́кль** [сьпе] -ля, -лі, -ляў
**радыёспе́ктр** [сьпе] -ра, -ры, -раў
**радыёспектраскапі́я** [сьпе] -і́і [ійі]
**радыёспецыялі́ст** [сьпе] -ста, -сце [сьце], -стаў
**радыёспо́рт** -рту, -рце
**радыёста́нцыя** -ыі [ыйі], -ый
**радыёсту́дыя** -ыі [ыйі], -ый
**радыёсу́вязь** -ззю [зьзю], -зей *і* -зяў
**радыёсхе́ма** -мы, -м
**радыётава́ры** -раў
**радыётрансляцы́йны** [нсьля]
**радыётрансля́цыя** [нсьля] -ыі [ыйі]
**радыётума́ннасць** [сьць] -цю
**радыётэа́тр** -ра, -ры, -раў
**радыётэлевізі́йны**
**радыётэлевымярэ́нне** [ньне] -нні
**радыётэлегра́ма** -ме, -м
**радыётэлегра́ф** -фа, -фе
**радыётэлеграфава́нне** [ньне] -нні
**радыётэлеграфі́ст** -ста, -сце [сьце], -стаў
**радыётэлеграфі́я** -і́і [ійі]
**радыётэлегра́фны**
**радыётэлекірава́нне** [ньне] -нні
**радыётэлеметры́чны**

**радыётэлеметры́я** -ы́і [ыйі]
**радыётэлемеха́ніка** -іцы
**радыётэлемехані́чны**
**радыётэлескапі́я** -іі [ійі]
**радыётэлеско́п** -па, -пе, -паў
**радыётэлефані́я** -іі [ійі]
**радыётэлефо́н** -на, -не, -наў
**радыётэлефо́нны**
**радыётэ́хнік** -ка, -ку, -каў
**радыётэ́хніка** -іцы
**радыётэхні́чны**
**радыёуніверсітэ́т** -э́та, -э́це, -э́таў
**радыёўзрыва́льнік** -ка, -ку, -каў
**радыёўстано́ўка** -о́ўцы, -о́вак
**радыёфані́я** -іі [ійі]
**радыёфестыва́ль** -лю, -лі, -ляў
**радыёфі́зік** -ка, -ку, -каў
**радыёфі́зіка** -іцы
**радыёфізі́чны**
**радыёфікава́нне** [ньне] -нні
**радыёфікава́ны**
**радыёфікава́цца** *зак. і незак.*, -ку́ецца, -ку́юцца
**радыёфікава́ць** *зак. і незак.*, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е, -ку́юць
**радыёфіка́цыя** -ыі [ыйі]
**радыёфі́рма** -ме, -м *і* -маў
**радыёфотатэлегра́ф** -фа, -фе
**радыёхва́ля** -лі, -ль
**радыёхвалявод** -да, -дзе, -даў
**радыёхуліга́нства** -ве
**радыёцэплалака́цыя** -ыі [ыйі]
**радыёцэ́нтр** -ра, -ры, -раў
**радыёчасо́піс** -са, -се, -саў
**радыёчастата́** -аце́
**радыёчасто́тны**
**радыёшко́ла** -ле, -л
**радыёшу́м** -му, -ме, -маў
**радыёэлектро́ніка** -іцы
**радыёэлектро́нны**
**радыёэлеме́нт** -нта, -нце [ньце], -нтаў
**радыёэстафе́та** -е́це, -е́т
**ра́дый** *хім.*, -ыю, -ыі [ыйі]
**радыка́л** *мат., хім., паліт.*, -ла, -ле, -лаў
**радыкаліза́цыя** -ыі [ыйі]
**радыкалі́зм** *паліт.*, -му, -ме
**радыка́л-сацыялі́ст** *паліт.*, радыка́л-сацыяліста, радыка́л-сацыялісце [сьце], радыка́л-сацыялістаў
**радыка́льна** *прысл.*
**радыка́льнасць** [сьць] -цю
**радыка́льны**
**радыкулі́т** *мед.*, -і́ту, -і́це
**рады́ска** -ы́сцы, -ы́сак
**рады́скавы**
**рады́ст** -ста, -сце [сьце], -стаў
**рады́стка** -тцы [сᵀц], -так
**ра́дыус** -са, -се, -саў
**ра́дыус-ве́ктар** *спец.*, ра́дыус-ве́ктара, ра́дыус-ве́ктары, ра́дыус-ве́ктараў
**радыягра́фія** -іі [ійі]
**радыяло́гія** -іі [ійі]
**радыя́льна** *прысл.*
**радыя́льна-во́севы**
**радыя́льна-по́ршневы**
**радыя́льна-свідрава́льны** [сьві]
**радыя́льна-сферы́чны**
**радыя́льнасць** [сьць] -цю
**радыя́льны**
**радыяля́рыевы** *заал.*
**радыяля́рыя** -ыі [ыйі], -ый
**радыяме́трыя** -ыі [ыйі]
**радыя́н** *мат.*, -на, -не
**радыя́нны**
**радыя́нт** *астр.*, -нта, -нце [ньце]
**радыя́тар** *тэх., фіз.*, -ра, -ры, -раў
**радыя́тарны**
**радыяхі́мія** -іі [ійі]
**радыяцы́йны**
**радыя́цыя** *фіз.*, -ыі [ыйі]
**рае́нне** [ньне] *пчал.*, -нні
**рае́шнік** -ка, -ку, -каў
**раёк** райка́, -ку́, -ко́ў
**раён** -на, -не, -наў
**раённы**
**раёўня** *пчал.*, -ні, -няў
**ра́жанка** -нцы
**ра́жачка** -чцы [цц], -чак
**ра́жка** [шк] -жцы [шц], -жак *і* **ра́шка**
**ражкі́** [шк] *кул.*, -ко́ў
**ражко́вы** [шк]
**ражо́к** ражка́ [шк], -ку́, -ко́ў
**ражо́н** ражна́, -не́, -но́ў
**ражо́нчык** -ка, -ку, -каў
**ражо́чнік** *муз.*, -ка, -ку, -каў
**раз** ра́зу, ра́зе, *мн.* разы́, разо́ў
**раз** *прысл., злучн.*
**разабра́ны**
**разабра́цца** *зак.*, разбяру́ся [зьбя], -рэ́шся [сься], -рэ́цца, -ро́мся, разберацёся, разбяру́цца; разбяры́ся
**разабра́ць** *зак.*, разбяру́ [зьбя], -рэ́ш, -рэ́, -ро́м, разберацё, разбяру́ць; разбяры́
**ра́завы**
**разагітава́ць** *разм., зак.*, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е, -ту́юць
**разагна́ны**
**разагна́цца** *зак.*, разганю́ся, разго́нішся [сься], -ніцца, -німся, -ніцеся, -няцца
**разагна́ць** *зак.*, разганю́, разго́ніш, -ніць, -нім, -ніце, -няць
**разагну́ты**
**разагну́цца** *зак.*, -ну́ся, -не́шся [сься], -не́цца, -нёмся, -няце́ся, -ну́цца
**разагну́ць** *зак.*, -ну́, -не́ш, -не́, -нём, -няце́, -ну́ць
**разаграва́нне** [ньне] -нні
**разаграва́цца** *незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца *і* -раю́ся, -рае́шся [сься], -рае́цца, -раёмся, -раяце́ся, -раю́цца
**разаграва́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць *і* -раю́, -рае́ш, -рае́, -раём, -раяце́, -раю́ць
**разагрэ́ты**
**разагрэ́ў** *спец.*, -э́ву, -э́ве
**разагрэ́цца** *зак.*, -э́юся, -э́ешся [сься], -э́ецца, -э́юцца
**разагрэ́ць** *зак.*, -э́ю, -э́еш, -э́е, -э́юць
**разадзе́ты** *разм.*
**разадзе́цца** *разм., зак.*, -е́нуся, -е́нешся [сься], -е́нецца, -е́нуцца; разадзе́нься
**разадзе́ць** *разм., зак.*, -е́ну, -е́неш, -е́не, -е́нуць; разадзе́нь
**разадзьму́ты** *і* **раздзьму́ты**
**разадзьму́цца** *зак.*, -му́ся, -ме́шся [сься], -ме́цца, -мёмся, -мяце́ся, -му́цца *і* **раздзьму́цца**
**разадзьму́ць** *зак.*, -му́, -ме́ш, -ме́, -мём, -мяце́, -му́ць *і* **раздзьму́ць**
**разадзява́цца** *разм., незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца
**разадзява́ць** *разм., незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**разадне́ць** *зак.*, -е́е; -е́ла *і* **разднець**
**разадра́ны** *і* **раздзёрты**
**разадра́цца** *зак.*, раздзяру́ся [зьдзя], -рэ́шся [сься], -рэ́цца, -ро́мся, раздзерацёся, раздзяру́цца *і* **раздзёрціся**
**разадра́ць** *зак.*, раздзяру́ [зьдзя], -рэ́ш, -рэ́, -ро́м, раздзерацё, раздзяру́ць *і* **раздзе́рці**
**раза́к** *(нож)* -ка́, -ку́, -ко́ў; *бат.*, -ку́
**разалга́цца** *разм., зак.*, -лгу́ся, -лжэ́шся [сься], -лжэ́цца, -лжо́мся, -лжаце́ся, -лгу́цца *і* **разылга́цца**
**ра́зам** *прысл.*
**разамкну́ты** *і* **разамкнёны**
**разамкну́цца** *зак.*, -не́цца, -нёмся, -няце́ся, -ну́цца
**разамкну́ць** *зак.*, -ну́, -не́ш, -не́, -нём, -няце́, -ну́ць
**разамле́ласць** [сьць] *разм.*, -цю
**разамле́лы** *разм.*
**разамле́ць** *разм., зак.*, -е́ю, -е́еш, -е́е, -е́юць
**разаніліні** *хім.*, -ну, -не
**разані́на** *разм.*, -не
**Раза́нская во́бласць** [сьць] Раза́нскай во́бласці
**раза́нскі**
**разану́цца** *разм., зак.*, -ну́ся, -не́шся [сься], -не́цца, -нёмся, -няце́ся, -ну́цца
**разану́ць** *разм., зак.*, -ну́, -не́ш, -не́, -нём, -няце́, -ну́ць

**Разáнь** *г.*, Разáнню [ньню]
**разапнýты**
**разапнýцца** *разм.*, *зак.*, -нý-ся, -нéшся [сься], -нéцца, -нёмся, -няцéся, -нýцца, *часцей* **распя́цца**
**разапнýць** *разм.*, *зак.*, -нý, -нéш, -нé, -нём, -няцé, -нýць, *часцей* **распя́ць**
**разаправáнне** [ньне] -нні
**разаправáць** *незак.*, -áю, -áеш, -áе, -áюць
**разапрэ́лы**
**разапрэ́ць** *зак.*, *(разбухнуць ад цяпла і вільгаці)* -эе, -эюць; *(моцна спацець)* *разм.*, -эю, -эеш, -эе, -эюць
**разапхáны** *разм.*
**разапхáць** *разм.*, *зак.*, -áю, -áеш, -áе, -áюць
**разапхнýты** *і* **разапхнёны** *разм.*
**разапхнýць** *разм.*, *зак.*, -нý, -нéш, -нé, -нём, -няцé, -нýць
**разарáны**
**разарáцца** *незак.*, -áюся, -áешся [сься], -áецца, -áюцца
**разарáць** *(ад араць)* *зак.*, -рý, -рэ́ш, -рэ́, -рóм, -рацé, -рýць; *(даводзіць да беднасці)* *незак.*, -áю, -áеш, -áе, -áюць
**разарвáнасць** [сьць] -цю
**разарвáнне** [ньне] -нні
**разарвáны**
**разарвáцца** *зак.*, -вýся, -вéшся [сься], -вéцца, -вёмся, -вяцéся, -вýцца
**разарвáць** *зак.*, -вý, -вéш, -вé, -вём, -вяцé, -вýць
**разарóны**
**разáрый** -ыя, -ыі [ыйі], -ыяў, *часцей* **ружóўнік**
**разары́цель** -ля, -лю, -ляў
**разары́цца** *зак.*, разарýся, разóрышся [сься], -рыцца, -рымся, -рыцеся, -рацца *і* разарýся, разары́шся [сься], -ры́цца, -ры́мся, -рыцéся, -рáцца
**разары́ць** *зак.*, разарý, разóрыш, -рыць, -рым, -рыце, -рацць *і* разарý, разары́ш, -ры́ць, -ры́м, -рыцé, -рáць
**разарэ́нне** [ньне] -нні
**разасла́ны**
**разасла́цца** *зак.*, рассцéлецца [сьсьце], -люцца
**разасла́ць** *зак.*, *(паслаць у розныя месцы)* разашлю́, -лéш, -лé, -лём, -ляцé, -лю́ць; *(паслаць на якой-н. паверхні)* рассцялю́, [сьсьця], рассцéлеш, -ле, -лем, -леце, -люць
**разаспáцца** *разм.*, *зак.*, -плюся, -пішся [сьпісься], -піцца, -пімся, -піцéся, -пя́цца
**разассáны**
**разассáцца** *зак.*, -ссéцца [сьсе], -ссýцца
**разассáць** *зак.*, -ссý, -ссéш [сьсе], -ссé, -ссём, -ссяцé, -ссýць
**разасырóджаны**
**разасырóджванне** [ньне] -нні
**разасырóджвацца** *незак.*, -аецца, -аемся, -аецеся, -аюцца
**разасырóджваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разасырóдзіцца** *зак.*, -дзіцца, -дзімся, -дзіцеся, -дзяцца
**разасырóдзіць** *зак.*, -джу, -дзіш, -дзіць, -дзяць
**разаткáны**
**разаткáць** *зак.*, -ткý, -тчэ́ш [чч], -тчэ́, -тчóм, -тчацé, -ткýць
**разахвóціцца** *зак.*, -óчуся, -óцішся [сься], -óціцца, -óцяцца
**разахвóціць** *зак.*, -óчу, -óціш, -óціць, -óцяць
**разахвóчаны**
**разахвóчванне** [ньне] -нні
**разахвóчвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разахвóчваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разáхкацца** *разм.*, *зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разачхáцца** *разм.*, *зак.*, -áюся, -áешся [сься], -áецца, -áюцца
**разбавíцель** *тэх.*, -лю, -лі, -ляў
**разбáвіцца** *зак.*, -віцца, -вяцца
**разбáвіць** *зак.*, -áўлю, -áвіш, -áвіць, -áвяць; разбáў
**разбагацéлы**
**разбагацéць** *зак.*, -éю, -éеш, -ée, -éюць
**разбазáраны**
**разбазáрванне** [ньне] -нні
**разбазáрвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**разбазáрваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбазáрыць** *зак.*, -ру, -рыш, -рыць, -раць
**разбазы́раць** *абл.*, *зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбалабóнены**
**разбалабóніць** *разм.*, *зак.*, -ню, -ніш, -ніць, -няць
**разбáлаванасць** [сьць] -цю
**разбáлаваны**
**разбáлавацца** *разм.*, *зак.*, -луюся, -луешся [сься], -луецца, -луюцца
**разбáлаваць** *зак.*, -лую, -луеш, -луе, -луюць
**разбалбатáцца** *разм.*, *зак.*, разбалбачýся, разбалбóчашся [сься], -чацца, -чамся, -чацеся, -чуцца
**разбалбатáць** *разм.*, *зак.*, разбалбачý, разбалбóчаш, -ча, -чам, -чаце, -чуць
**разбалéцца** *зак.*, -ліцца, -ляцца
**разбалтавáны** *спец.*
**разбалтавáць** *зак.*, -тýю, -тýеш, -тýе, -тýюць
**разбалтóўвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**разбалтóўваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбалявáцца** *зак.*, -лю́юся, -лю́ешся [сься], -лю́ецца, -лю́юцца
**разбамбíць** *зак.*, -блю́, -біш, -біць, -бім, -біцé, -бя́ць
**разбаранавáны** *с.-г.*
**разбаранавáць** *зак.*, -нýю, -нýеш, -нýе, -нýюць
**разбараніць** *зак.*, разбараню́, разбарóніш, -ніць, -нім, -ніце, -няць
**разбаранóўвацца** *с.-г.*, *незак.*, -аецца, -аюцца
**разбаранóўваць** *с.-г.*, *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбаранéць** *незак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць
**разбарóнены**
**разбарсáны** *разм.*
**разбарсáцца** *разм.*, *зак.*, -áецца, -áюцца
**разбарсáць** *разм.*, *зак.*, -áю, -áеш, -áе, -áюць
**разбартавáць** *спец.*, *зак.*, -тýю, -тýеш, -тýе, -тýюць
**разбартóўка** -óўцы
**разбаўлéнне** [ньне] *і* **разбáўка** *адпаведна* -нні; -ўцы
**разбáўлены**
**разбаўля́цца** *незак.*, -я́ецца, -я́юцца
**разбаўля́ць** *незак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць
**разбéг** [зьбе] -гу
**разбéгацца** [зьбе] *зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разбéгчыся** [зьбехч] *зак.*, -бягýся, -бяжы́шся [сься], -бяжы́цца, -бяжы́мся, -бежыцéся, -бягýцца; разбяжы́ся
**разбедавáцца** [зьбе] *разм.*, *зак.*, разбядýюся, -дýешся [сься], -дýецца, -дýюцца
**разбéжка** [зьбешк] -жцы [шц], -жак
**разбéжнасць** [зьбе] [сьць] -цю, -цей
**разбівáнне** [зьбі] [ньне] -нні
**разбівáцца** [зьбі] *незак.*, -áюся, -áешся [сься], -áецца, -áюцца
**разбівáць** [зьбі] *незак.*, -áю, -áеш, -áе, -áюць
**разбінтавáны** [зьбі]

**разбінтава́цца** [зьбі] *разм., зак.*, -ту́юся, -ту́ешся [сься], -ту́ецца, -ту́юцца; разбінту́йся
**разбінтава́ць** [зьбі] *зак.*, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е, -ту́юць; разбінту́й
**разбінто́ўванне** [зьбі] [ньне] -нні
**разбінто́ўвацца** [зьбі] *разм., незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разбінто́ўваць** [зьбі] *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбіра́льшчык** [зьбі] -ка, -ку, -каў
**разбіра́льшчыца** [зьбі] -цы, -ц
**разбіра́нне** [зьбі] [ньне] -нні
**разбіра́цца** [зьбі] *незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца
**разбіра́ць** [зьбі] *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**разбі́тасць** [зьбі] [сьць] -цю
**разбі́тнасць** [зьбі] [сьць] *разм.*, -цю
**разбітны́** [зьбі] *разм.*
**разбі́ты** [зьбі]
**разбі́ўка** [зьбі] -ўцы
**разбі́ўны** [зьбі]
**разбі́цца** [зьбі] *зак.*, разаб'ю́ся, -б'е́шся [сься], -б'е́цца, -б'ёмся, -б'яце́ся, -б'ю́цца; разбі́ся
**разбі́ць** [зьбі] *зак.*, разаб'ю́, -б'е́ш, -б'е́, -б'ём, -б'яце́, -б'ю́ць; разбі́
**разблакірава́ць** *зак.*, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е, -ру́юць
**разблы́таны**
**разблы́тацца** *зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разблы́таць** *зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разблы́тванне** [ньне] -нні
**разблы́твацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разблы́тваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбо́жкацца** [шк] *разм., зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разбо́й** -о́ю, -о́і [ойі], -о́яў
**разбо́йнік** -ка, -ку, -каў
**разбо́йніца** -цы, -ц
**разбо́йніцкі**
**разбо́йніцтва** -ве
**разбо́йнічаць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбо́йны**
**разбо́львацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**разбо́мблены**
**разбо́р** -ру, -ры
**разбо́рачная** *наз.*
**разбо́рачны**
**разбо́рка** -рцы
**разбо́рліва** *прысл.*
**разбо́рлівасць** [сьць] -цю
**разбо́рлівы**
**разбо́рна-металі́чны**
**разбо́рны**
**разбо́ршчык** -ка, -ку, -каў
**разбо́ршчыца** -цы, -ц
**разбо́ўтаны**
**разбо́ўтацца** *зак.*, -аецца, -аюцца
**разбо́ўтаць** *зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбо́ўтванне** [ньне] -нні
**разбо́ўтвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**разбо́ўтваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбракава́ны** *спец.* *і* **разбрако́ваны**
**разбракава́ць** *зак.*, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е, -ку́юць
**разбрака́ць** *незак.*, -а́е, -а́юць
**разбра́клы**
**разбра́кнуць** *зак.*, -не, -нуць
**разбрако́ваны** *і* **разбракава́ны**
**разбрако́вачны** *спец.*
**разбрако́ўвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**разбрако́ўваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбрако́ўка** -ўцы
**разбрако́ўшчык** -ка, -ку, -каў
**разбрако́ўшчыца** -цы, -ц
**разбраніра́ваць** *зак.*, -рую, -руеш, -руе, -руюць
**разбраха́цца** *разм., зак.*, *(пра сабаку)* -рэ́шацца, -рэ́шуцца; *(пра чалавека)* разбрашу́ся, разбрэ́шашся [сься], -шацца, -шамся, -шацеся, -шуцца
**разбраха́ць** *разм., зак.*, разбрашу́, разбрэ́шаш, -ша, -шам, -шаце, -шуць
**разбро́д** -ду, -дзе
**разбрыда́цца** *незак.*, -а́ецца, -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца
**разбрысці́ся** [сьці] *зак.*, -ыдзе́цца, -ыдзёмся, -ыдзяце́ся, -ыду́цца
**разбубні́цца** *разм., зак.*, -ню́ся, -ні́шся [сься], -ні́цца, -ні́мся, -ніце́ся, -ня́цца
**разбудава́ны** *разм.* *і* **разбудо́ваны**
**разбудава́цца** *разм., зак.*, -ду́юся, -ду́ешся [сься], -ду́ецца, -ду́юцца
**разбудава́ць** *разм., зак.*, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е, -ду́юць
**разбу́джаны**
**разбу́джваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбудзі́ць** *зак.*, разбуджу́, разбу́дзіш, -дзіць, -дзім, -дзіце, -дзяць
**разбудо́ваны** *разм.* *і* **разбудава́ны**
**разбудо́ўвацца** *разм., незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разбудо́ўваць** *разм., незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбуйне́нне** [ньне] -нні
**разбу́йнены**
**разбуйні́цца** *зак.*, -ні́цца, -ня́цца
**разбуйні́ць** *зак.*, -ню́, -ні́ш, -ні́ць, -ні́м, -ніце́, -ня́ць
**разбуйня́цца** *незак.*, -я́ецца, -я́юцца
**разбуйня́ць** *незак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць
**разбура́льна** *прысл.*
**разбура́льнасць** [сьць] -цю
**разбура́льнік** -ка, -ку, -каў
**разбура́льніца** -цы, -ц
**разбура́льны**
**разбу́раны**
**разбура́цца** *і* **разбу́рвацца** *незак., адпаведна* -а́ецца, -а́юцца; -аецца, -аюцца
**разбура́ць** *і* **разбу́рваць** *незак., адпаведна* -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць; -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбу́рванне** [ньне] -нні
**разбуркава́цца** *разм., зак.*, -ку́ецца, -ку́юцца
**разбу́ркацца** *разм., зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разбурча́цца** *разм., зак.*, -чу́ся, -чы́шся [сься], -чы́цца, -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца
**разбуры́цца** *зак.*, разбу́рыцца, -рацца
**разбуры́ць** *зак.*, разбуру́, разбу́рыш, -рыць, -рым, -рыце, -раць
**разбурэ́нне** [ньне] -нні, -нняў
**разбуха́нне** [ньне] -нні
**разбу́хаць** *разм., зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбуха́ць** *незак.*, -а́е, -а́юць
**разбу́хлы**
**разбу́хнуць** *зак.*, -не, -нуць; разбу́х, -хла, -хлі
**разбушава́цца** *зак.*, *(пра стыхійныя з'явы)* -шу́ецца, -шу́юцца; *(пра чалавека) разм.*, -шу́юся, -шу́ешся [сься], -шу́ецца, -шу́юцца
**разбуя́ніцца** *разм., зак.*, -ню́ся, -нішся [сься], -ніцца, -няцца
**разбыва́цца** *разм., незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца
**разбы́цца** *разм., зак.*, разбудуся, -дзешся [сься], -дзецца, -дуцца
**разбэ́рсаны**
**разбэ́рсацца** *разм., зак.*, -аецца, -аюцца

**разбэ́рсаць** *разм., зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбэ́рсвацца** *разм., незак.*, -аецца, -аюцца
**разбэ́рсваць** *разм., незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбэ́сціцца** [сьці] *зак.*, -э́шчуся, -э́сцішся [сьцісься], -э́сціцца, -э́сцяцца
**разбэ́сціць** [сьці] *зак.*, -э́шчу, -э́сціш [сьці], -э́сціць, -э́сцяць
**разбэ́шчана** *прысл.*
**разбэ́шчанасць** [сьць] -цю
**разбэ́шчаны**
**разбэ́шчвальнік** -ка, -ку, -каў
**разбэ́шчвальніца** -цы, -ц
**разбэ́шчванне** [ньне] -нні
**разбэ́шчвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разбэ́шчваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разбяга́цца** [зьбя] *незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца
**разбя́р** [зьбя] *маст.*, -ра́, -ру́, -ро́ў
**разбя́рны** [зьбя]
**разбя́рскі** [зьбя]
**разбя́рства** [зьбя] -ве
**разбя́рыць** [зьбя] *разм., незак.*, -ру, -рыш, -рыць, -рацць
**разва́га** -а́зе, -а́г
**развадзя́шчы** *ваен., наз.*
**развадны́**
**развrouting**

**разважа́нне** [ньне] -нні, -нняў
**разва́жаны**
**разважа́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**разва́жванне** [ньне] -нні
**разва́жвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**разва́жваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разва́жліва** *прысл.*
**разва́жлівасць** [сьць] -цю
**разва́жлівы**
**разва́жна** *прысл.*
**разва́жнасць** [сьць] -цю
**разва́жнічацца** *разм., зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разва́жны**
**развáжны́**
**разва́жыць** *зак.*, -жу, -жыш, -жыць, -жаць
**развазны́**
**разва́л** -лу, -ле
**развалака́нне** *і* **развала́кванне** [ньне] *разм., для абодвух* -нні
**развалака́цца** *і* **развала́квацца** *разм., незак., адпаведна* -а́ецца, -а́юцца; -аецца, -аюцца
**развалака́ць** *і* **развала́кваць** *разм., незак., адпаведна* -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць; -аю, -аеш, -ае, -аюць
**развалачы́** *разм., зак.*, -аку́, -ачэ́ш, -ачэ́, -ачо́м, -ачаце́, -аку́ць
**развалачы́цца** *разм., зак.*, -чу́ся, развало́чышся [сься], -чыцца, -чымся, -чыцеся, -чацца
**разва́лены**
**разва́ліна** *(пра чалавека) разм.*, -не, -н
**разва́ліны** *(рэшткі чаго-н.)* -н; *(сані) разм.*, -н, *часцей* **разва́лкі**
**разва́лісты** *разм.*
**развалі́цца** *зак.*, разва́ліцца, -ляцца; *(сесці або легчы неакуратна) разм.*, развалю́ся, разва́лішся [сься], -ліцца, -лімся, -ліцеся, -ляцца
**развалі́ць** *зак.*, развалю́, разва́ліш, -ліць, -лім, -ліце, -ляць
**разва́лкі** *(сані)* -лак *і* **разва́ліны, ро́звальні**
**развало́чаны** *разм.*
**разва́лы** -лаў
**разва́льванне** [ньне] -нні
**разва́львацца** *незак.*, -аецца, -аюцца; *разм.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разва́льваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**развальцава́ны** *тэх.*
**развальцава́ць** *зак.*, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е, -цу́юць
**развальцо́ўванне** [ньне] -нні
**развальцо́ўвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**развальцо́ўваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**развальцо́ўка** -ўцы
**развалю́ха** *разм.*, -ю́се, -ю́х
**разва́раны**
**разва́рванне** [ньне] -нні
**разва́рвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**разва́рваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разварны́**
**развaро́т** -о́ту, -о́це
**развaро́чаны**
**развaро́чаць** *зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**развaро́чванне** [ньне] -нні
**развaро́чвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**развaро́чваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**развару́шаны**
**развару́шванне** [ньне] -нні
**развару́швацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**развару́шваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разварушы́цца** *зак.*, развару шу́ся, развару́шышся [сься], -шыцца, -шымся, -шыцеся, -шацца
**разварушы́ць** *зак.*, развару шу́, развару́шыш, -шыць, -шым, -шыце, -шаць
**разва́рыстасць** [сьць] -цю
**разва́рысты**
**развары́цца** *зак.*, разва́рыцца, -рацца
**развары́ць** *зак.*, развару́, разва́рыш, -рыць, -рым, -рыце, -раць
**развар'ява́ны** *разм.*
**развар'ява́цца** *разм., зак.*, -р'ю́юся, -р'ю́ешся [сься], -р'ю́ецца, -р'ю́юцца
**разваява́цца** *разм., зак.*, разваю́юся, -ю́ешся [сься], -ю́ецца, -ю́юцца
**разведаддзе́л** [зьве] [дзьдзе] *(аддзе́л разве́дкі)* -ла, -ле, -лаў
**разве́данасць** [зьве] [сьць] -цю
**разве́даны** [зьве]
**разве́даць** [зьве] *зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разве́дачны** [зьве]
**разведба́т** [зьве] *(батальён разве́дкі)* -а́та, -а́це, -а́таў
**разве́двальнік** [зьве] -ка, -ку, -каў
**разве́двальны** [зьве]
**разве́дванне** [зьве] [ньне] -нні
**разве́двацца** [зьве] *незак.*, -аецца, -аюцца
**разве́дваць** [зьве] *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разведгру́па** [зьве] *(гру́па разве́дкі)* -пе, -п
**разведзво́дка** [зьведзвотк] *(разве́двальная зво́дка) ваен.*, -дцы [цц], -дак
**разве́дзены** [зьве]
**разве́дка** [зьветк] -дцы [цц], -дак
**разведпо́шук** [зьветп] *(разве́двальны по́шук)* -ку, -каў
**разведслу́жба** [зьветсл] *(разве́двальная слу́жба)* -бе
**разведузво́д** [зьве] *(узво́д разве́дкі)* -да, -дзе, -даў
**разведцэ́нтр** [зьвецц] *(разве́двальны цэнтр)* -ра, -ры, -раў
**разве́дчык** [зьвечч] -ка, -ку, -каў
**разве́дчыца** [зьвечч] -цы, -ц
**разве́дчыцкі** [зьвечч]
**разведшко́ла** [зьветшк] *(шко́ла разве́дчыкаў)* -ле, -л
**разве́зены** [зьве]
**разве́зці** [зьвесьці] *зак.*, развязу́, -вязе́ш, -вязе́, -вязём, -везяце́, -вязу́ць; -вёз, -ве́зла, -ве́злі [зьлі]; развязі́

**разве́йванне** [зьве] [ньне] -нні
**разве́йвацца** [зьве] *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разве́йваць** [зьве] *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разве́нчаны** [зьве] *часцей* **развянча́ны**
**разве́нчванне** [зьве] [ньне] -нні
**разве́нчвацца** [зьве] *незак.*, -аецца, -аюцца
**разве́нчваць** [зьве] *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разверадзі́ць** [зьве] *зак.*, развераджу́, развяра́дзіш, -дзіць, -дзім, -дзіце, -дзяць *і* **развяра́дзіць**
**разве́рнуты** *і* **разве́рнены** [зьве]
**разве́рчаны** [зьве]
**разве́сісты** [зьве]
**разве́сіцца** [зьве] *зак.*, -сіцца, -сяцца
**разве́сіць** [зьве] *зак.*, -е́шу, -е́сіш, -е́сіць, -е́сяць
**разве́сці** [зьвесьці] *зак.*, -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́, -вядзём, -ведзяце́, -вяду́ць; -вёў, -вяла́, -вяло́, -вялі́
**разве́сціся** [зьвесьці] *зак.*, -вяду́ся, -вядзе́шся [сься], -вядзе́цца, -вядзёмся, -ведзяце́ся, -вяду́цца; -вёўся, -вяла́ся, -вяло́ся, -вялі́ся
**развесялі́цца** [зьве] *зак.*, -люся, развясе́лішся [сься], -ліцца, -лімся, -ліцеся, -ляцца *і* развеселю́ся, -лі́шся [сься], -лі́цца, -лі́мся, развеселіце́ся, развесяля́цца
**развесялі́ць** [зьве] *зак.*, -лю, развясе́ліш, -ліць, -лім, -ліце, -ляць *і* развеселю́, -лі́ш, -лі́ць, -лі́м, развеселіце́, развесяля́ць; развеселі́
**развесяля́цца** [зьве] *незак.*, -я́юся, -я́ешся [сься], -я́ецца, -я́юцца, *часцей* **развясе́львацца**
**развесяля́ць** [зьве] *незак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць, *часцей* **развясе́льваць**
**разве́шаны** [зьве]
**разве́шаць** [зьве] *зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разве́шванне** [зьве] [ньне] -нні
**разве́швацца** [зьве] *незак.*, -аецца, -аюцца
**разве́шваць** [зьве] *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разве́яны** [зьве]
**разве́яцца** [зьве] *зак.*, *(ад ветру)* -е́ецца, -е́юцца; *разм.*, -е́юся, -е́ешся [сься], -е́ецца, -е́юцца
**разве́яць** [зьве] *зак.*, -е́ю, -е́еш, -е́е, -е́юць
**развёрстванне** [зьвё] [ньне] -нні
**развёрстввацца** [зьвё] *незак.*, -аецца, -аюцца
**развёрстваць** [зьвё] *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**развёрстка** [зьвё] -тцы [сᵀц]
**развіва́нне** [зьві] [ньне] -нні
**развіва́цца** [зьві] *незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца
**развіва́ць** [зьві] *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**развідне́ць** *і* **развідне́цца** [зьві] *зак.*, *адпаведна* -е́е, -е́ла; -е́ецца, -е́лася
**развіднíваць, развідня́ць** *і* **развіднíвацца, развідня́цца** [зьві] *незак.*, *адпаведна* -ае, -ала; -я́е, -я́ла; -аецца, -алася; -я́ецца, -я́лася
**разві́ліна** [зьві] -не, -н *і* **разга́ліна**
**разві́лісты** [зьві]
**разві́лка** *і* **разві́лак** [зьві] *разм., адпаведна* -лцы, -лак; -лку, -лкаў *і* **разга́лак**
**развіна́нне** [зьві] [ньне] *разм.*, -нні, *часцей* **разго́ртванне**
**развіна́цца** [зьві] *незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца
**развіна́ць** [зьві] *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**развіну́ты** [зьві]
**развіну́цца** [зьві] *зак.*, -не́цца, -ну́цца
**развіну́ць** [зьві] *зак.*, -ну́, -не́ш, -не́, -нём, -няце́, -ну́ць
**развінці́цца** [зьвіньці] *зак.*, развíнціцца, -цяцца; *(стаць нявытрыманым) разм.*, развінчу́ся, развíнцішся [сься], -ціцца, -цімся, -ціцеся, -цяцца
**развінці́ць** [зьвіньці] *зак.*, развінчу́, развíнціш, -ціць, -цім, -ціце, -цяць
**развíнчанасць** [зьві] [сьць] -цю
**развíнчаны** [зьві]
**развíнчванне** [зьві] [ньне] -нні
**развíнчвацца** [зьві] *незак.*, -аецца, -аюцца; *разм.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**развíнчваць** [зьві] *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**развíслы** [зьві]
**развіта́льны** [зьві]
**развіта́нне** [зьві] [ньне] -нні
**развíтасць** [зьві] [сьць] -цю
**разві́та́цца** [зьві] *зак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца
**развíтвацца** [зьві] *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**развíты** [зьві]
**разві́ты** [зьві]
**развíцца** [зьві] *зак.*, разаўю́ся, -ўе́шся [сься], -ўе́цца, -ўёмся, -ўяце́ся, -ўю́цца; -íўся, -іла́ся, -іло́ся, -іліся
**развіццё** [зьвіцьцё] -ццí
**развíць** [зьві] *зак.*, разаўю́, -ўе́ш, -ўе́, -ўём, -ўяце́, -ўю́ць; -íў, -іла́, -іло́, -ілí
**развішча́цца** [зьві] *зак.*, -чу́ся, -чы́шся [сься], -чы́цца, -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца
**разво́д** -ду, -дзе, -даў
**разво́ддзе** [дзьдзе] -ддзі
**разво́дзіцца** *незак.*, -джуся, -дзішся [сься], -дзіцца, -дзяцца
**разво́дзіць** *незак.*, -джу, -дзіш, -дзіць, -дзяць
**разво́дка** [тк] -дцы [цц], -дак
**разво́дны**
**разво́дчык** [чч] *спец.*, -ка, -ку, -каў
**разво́ды** *(разведзеныя калёсы) разм.*, -даў
**разво́жаны** *абл.*
**разво́з** -зу, -зе
**разво́зіцца** *незак.*, -зіцца, -зяцца
**разво́зіць** *незак.*, -о́жу, -о́зіш, -о́зіць, -о́зяць
**разво́зка** [ск] -зцы [сц]
**разво́зчык** [шч] -ка, -ку, -каў
**разво́зчыца** [шч] -цы, -ц
**разво́й** *спец.*, -о́ю, -о́і [ойі]
**разво́йкацца** *разм., зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разво́рванне** [ньне] -нні
**разво́рвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**разво́рваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разво́хкацца** *разм., зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**развýчаны**
**развýчванне** [ньне] -нні
**развýчвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**развýчваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**развучы́цца** *зак.*, развучу́ся, развýчышся [сься], -чыцца, -чымся, -чыцеся, -чацца
**развучы́ць** *зак.*, развучу́, развýчыш, -чыць, -чым, -чыце, -чаць
**развы́цца** *зак.*, *(пачаць доў-*

*га выць)* -ы́ецца, -ы́юцца; *(расплакацца) разм., груб.*, -ы́юся, -ы́ешся [сься], -ы́ецца, -ы́юцца
**развэ́дзганы** [*з выбухн. г*] *разм.*
**развэ́дзгаць** [*з выбухн. г*] *разм., зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**развява́нне** [зьвя] [ньне] -нні
**развява́цца** [зьвя] *незак.*, -а́ецца, -а́юцца
**развява́ць** [зьвя] *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**развядзе́нне** [зьвя] [ньне] -нні
**развядзё́н** [зьвя] *разм.*, -на, -не, -наў
**развядзё́нка** [зьвя] *разм.*, -нцы, -нак
**развя́заны** [зьвя]
**развяза́цца** [зьвя] *зак., (пра канцы чаго-н. завязанага)* развя́жацца, -жуцца; *(парваць сувязь) разм.*, развяжу́ся, развя́жашся [сься], -жацца, -жамся, -жацеся, -жуцца
**развяза́ць** [зьвя] *зак.*, развяжу́, развя́жаш, -жа, -жам, -жаце, -жуць
**развя́званне** [зьвя] [ньне] -нні
**развя́звацца** [зьвя] *незак.*, -аецца, -аюцца; *разм.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**развя́зваць** [зьвя] *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**развя́зка** [зьвяск] -зцы [сц], -зак
**развя́зна** [зьвя] *прысл.*
**развя́знасць** [зьвя] [сьць] -цю
**развя́зны** [зьвя]
**развянча́нне** [зьвя] [ньне] -нні
**развянча́ны** [зьвя] *і* **разве́нчаны**
**развянча́ць** [зьвя] *зак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**развярну́цца** [зьвя] *зак.*, развярну́ся, разве́рнешся [сься], -нецца, -немся, -нецеся, -ну́цца
**развярну́ць** [зьвя] *зак.*, развярну́, разве́рнеш, -не, -нем, -неце, -нуць
**развярста́ны** [зьвя]
**развярста́ць** [зьвя] *зак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**развярпе́ць** [зьвя] *зак.*, развярчу́, разве́рціш, -ціць, -цім, -ціце, -цяць
**развярэ́джанне** [зьвя] [ньне] -нні
**развярэ́джаны** [зьвя]
**развярэ́джвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**развярэ́джваць** [зьвя] *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**развярэ́дзіць** [зьвя] *зак.*, -джу, -дзіш, -дзіць, -дзяць, *часцей* **разверадзі́ць**
**развясе́лены** [зьвя]
**развясе́львацца** [зьвя] *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца *і* **развесяля́цца**
**развясе́льваць** [зьвя] *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць *і* **развесяля́ць**
**развясё́лы** [зьвя]
**разгавары́цца** *зак.*, разгавару́ся, разгаво́рышся [сься], -рыцца, -рымся, -рыцеся, -рацца
**разгавары́ць** *разм., зак.*, разгавару́, разгаво́рыш, -рыць, -рым, -рыце, -раць
**разгаве́нне** [ньне] *уст.*, -нні
**разгаве́цца** *уст., зак.*, -е́юся, -е́ешся [сься], -е́ецца, -е́юцца
**разгадава́ны**
**разгадава́цца** *разм., зак.*, -ду́юся, -ду́ешся [сься], -ду́ецца, -ду́юцца
**разгадава́ць** *зак.*, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е, -ду́юць
**разгада́ны**
**разгада́цца** *зак.*, -а́ецца, -а́юцца
**разгада́ць** *зак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**разга́дванне** [ньне] -нні
**разга́двацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**разга́дваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разга́дка** [тк] -дцы [цц], -дак
**разгадо́ўвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**разгадо́ўваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разга́дчык** [чч] -ка, -ку, -каў
**разга́дчыца** [чч] -цы, -ц
**разгайда́ны** *і* **разго́йданы**
**разгайда́цца** *зак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца *і* **разго́йдацца**
**разгайда́ць** *зак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць *і* **разго́йдаць**
**разга́лак** *абл.*, -лку, -лкаў, *часцей* **разві́лка**
**разгаласі́цца** *зак.*, разгалашу́ся, разгало́сішся [сься], -сіцца, -сімся, -сіцеся, -сяцца
**разгалё́кацца** *разм., зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разга́ліна** -не, -н, *часцей* **разві́ліна**
**разгалінава́нне** [ньне] -нні, -нняў
**разгалінава́ны**
**разгалінава́цца** *зак.*, -ну́ецца, -ну́юцца
**разгалінава́ць** *зак.*, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е, -ну́юць
**разгалінэ́нне** [ньне] -нні, -нняў
**разгалі́ніцца** *зак.*, -ніцца, -няцца
**разгалінó́ўванне** [ньне] -нні
**разгалінó́ўвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**разгалінó́ўваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разгаліня́цца** *і* **разгалі́ньвацца** *незак., адпаведна* -я́ецца, -я́юцца; -аецца, -аюцца
**разга́лісты**
**разгамані́цца** *разм., зак.*, разгаманю́ся, разгамо́нішся [сься], -ніцца, -німся, -ніцеся, -няцца
**разганя́цца** *незак.*, -я́юся, -я́ешся [сься], -я́ецца, -я́юцца
**разганя́ць** *незак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць
**разга́р** -ру, -ры
**разгарадзі́цца** *зак.*, разгараджу́ся, разгаро́дзішся [сься], -дзіцца, -дзімся, -дзіцеся, -дзяцца
**разгарадзі́ць** *зак.*, разгараджу́, разгаро́дзіш -дзіць, -дзім, -дзіце, -дзяць
**разгара́нне** *і* **разга́рванне** [ньне] *для абодвух* -нні
**разгара́цца** *і* **разга́рвацца** *незак., адпаведна* -а́ецца, -а́юцца; -аецца, -аюцца
**разгара́чаны**
**разгарачы́цца** *зак.*, -чу́ся, -чы́шся [сься], -чы́цца, -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца
**разгарачы́ць** *зак.*, -чу́, -чы́ш, -чы́ць, -чы́м, -чыце́, -ча́ць
**разгарлапа́ніцца** *і* **разгарла́ніцца** *разм., зак., для абодвух* -нюся, -нішся [сься], -ніцца, -няцца
**разгарнэ́нне** [ньне] -нні
**разгарну́цца** *зак.*, разгарну́ся, разго́рнешся [сься], -нецца, -немся, -нецеся, -нуцца
**разгарну́ць** *зак.*, разгарну́, разго́рнеш, -не, -нем, -неце, -нуць
**разгаро́джаны**
**разгаро́джванне** [ньне] -нні
**разгаро́джвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разгаро́джваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разгаро́дка** [тк] -дцы [цц], -дак
**разгарэ́цца** *зак.*, -ры́цца, -ра́цца
**разгасці́цца** [сьці] *разм., зак.*, -ашчу́ся, разго́сцішся [сься], -ціцца, -цімся, -ціцеся, -цяцца
**разга́ты** *разм. і* **разга́цісты**
**разга́ўкацца** *разм., зак.*, -аецца, -аюцца

**разгаўля́цца** *уст., незак.*, -я́юся, -я́ешся [сься], -я́ецца, -я́юцца
**разга́ціна** *разм.*, -не, -н
**разга́цісты** *разм., часцей* **разга́ты**
**разга́ціцца** *разм., незак.*, -ціцца, -цяцца
**разгерметызава́цца** *зак.*, -зу́ецца, -зу́юцца
**разгерметызава́ць** *зак.*, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е, -зу́юць
**разгерметыза́цыя** -ыі [ыйі]
**разгі́б** -бу, -бе, -баў *і* **разгі́н**
**разгіба́нне** [ньне] -нні, *часцей* **разгіна́нне**
**разгіба́цца** *незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца, *часцей* **разгіна́цца**
**разгіба́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць, *часцей* **разгіна́ць**
**разгільдзя́й** *разм.*, -я́я, -я́ю, -я́яў
**разгільдзя́йка** *разм.*, -я́йцы, -я́ек
**разгільдзя́йнічаць** *разм., незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разгільдзя́йскі** *разм.*
**разгільдзя́йства** *разм.*, -ве
**разгіна́льны** *анат.*
**разгі́н** -ну, -не, -наў *і* **разгі́б**
**разгіна́нне** [ньне] -нні *і* **разгіба́нне**
**разгіна́цца** *незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца *і* **разгіба́цца**
**разгіна́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць *і* **разгіба́ць**
**разглаго́льстваванне** [ньне] *разм.*, -нні, -нняў
**разглаго́льстваваць** *разм., незак.*, -ствую, -ствуеш, -ствуе, -ствуюць
**разгла́джаны**
**разгла́джванне** [ньне] -нні
**разгла́джвацца** *незак.*, -аецца, -аюцца
**разгла́джваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разгла́дзіцца** *зак.*, -дзіцца, -дзяцца
**разгла́дзіць** *зак.*, -джу, -дзіш, -дзіць, -дзяць
**разгле́джаны**
**разгле́дзецца** *зак.*, -джуся, -дзішся [сься], -дзіцца, -дзяцца
**разгле́дзець** *зак.*, -джу, -дзіш, -дзіць, -дзяць *і* **разглядзе́ць**
**разгля́д** -ду, -дзе
**разгляда́нне** *і* **разгля́дванне** [ньне] *для абодвух* -нні
**разгляда́цца** *і* **разгля́двацца** *незак., адпаведна* -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца; -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разгляда́ць** *і* **разгля́дваць** *незак., адпаведна* -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць; -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разглядзе́ць** *зак.*, -джу́, -дзі́ш, -дзі́ць, -дзі́м, разгледзіце́, разглядзя́ць, *часцей* **разгле́дзець**
**разгне́ваны**
**разгне́вацца** *зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разгняві́ць** *і* **разгне́ваць** *зак., адпаведна* -яўлю́, -яві́ш, -яві́ць, -яві́м, разгневіце́, разгнявя́ць; -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разгняздзі́цца** [зьдзі] *зак.*, разгне́здзіцца, -дзяцца
**разго́йданы** *часцей* **разгайда́ны**
**разго́йдацца** *зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца, *часцей* **разгайда́цца**
**разго́йдаць** *зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць, *часцей* **разгайда́ць**
**разго́йдванне** [ньне] -нні
**разго́йдвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разго́йдваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разго́н** -ну, -не
**разго́начны** *спец.*
**разго́ністы**
**разго́нка** -нцы
**разго́нны**
**разго́рнены** *часцей* **разго́рнуты**
**разго́рніцца** *разм., зак.*, -нюся, -нішся [сься], -ніцца, -няцца
**разго́рніць** *разм., зак.*, -ню, -ніш, -ніць, -няць
**разго́рнуты** *і* **разго́рнены, развіну́ты**
**разго́ртвальны** *мат.*
**разго́ртванне** [ньне] -нні *і* **развіна́нне**
**разго́ртвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разго́ртваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разго́ртка** *спец.*, -тцы [рᵀц], -так
**разграба́нне** [ньне] -нні
**разграба́цца** *незак.*, -а́ецца, -а́юцца
**разграба́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**разгра́біць** *зак.*, -блю, -біш, -біць, -бяць
**разграбле́нне** [ньне] -нні
**разгра́блены**
**разграбля́цца** *незак.*, -я́ецца, -я́юцца
**разграбля́ць** *незак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць
**разграмі́ць** *зак.*, -млю́, -мі́ш, -мі́ць, -мі́м, -міце́, -мя́ць
**разграфі́ць** *зак.*, -флю́, -фі́ш, -фі́ць, -фі́м, -фіце́, -фя́ць
**разграфле́нне** [ньне] -нні
**разграфлёны**
**разграфля́цца** *незак.*, -я́ецца, -я́юцца,
**разграфля́ць** *незак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць
**разгро́м** -му, -ме
**разгро́млены**
**разгро́мны**
**разгружа́льнік** -ка, -ку, -каў
**разгру́жаны**
**разгружа́цца** *незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца
**разгружа́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**разгру́зачная** *наз.*
**разгру́зачны**
**разгрузі́цца** *зак.*, разгружу́ся, разгру́зішся [сься], -зіцца, -зімся, -зіцеся, -зяцца
**разгрузі́ць** *зак.*, разгружу́, разгру́зіш, -зіць, -зім, -зіце, -зяць
**разгру́зка** [ск] -зцы [сц]
**разгрузны́** *спец.*
**разгру́зчык** [шч] -ка, -ку, -каў
**разгру́зчыца** [шц] -цы, -ц
**разгру́кацца** *зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разгрупава́нне** [ньне] -нні
**разгрупава́ны**
**разгрупава́цца** *зак.*, -пу́ецца, -пу́емся, -пу́ецеся, -пу́юцца
**разгрупава́ць** *зак.*, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е, -пу́юць
**разгрупо́ўвацца** *незак.*, -аецца, -аемся, -аецеся, -аюцца
**разгрупо́ўваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разгрыза́нне** [ньне] -нні
**разгрыза́цца** *незак.*, -а́ецца, -а́юцца
**разгрыза́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць
**разгры́зены**
**разгры́зці** [сьці] *зак.*, -зу́, -зе́ш, -зе́, -зём, -зяце́, -зу́ць
**разгрыміра́ваны**
**разгрыміра́вацца** *зак.*, -ру́юся, -ру́ешся [сься], -ру́ецца, -ру́юцца
**разгрыміра́ваць** *зак.*, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е, -ру́юць
**разгрыміро́ўванне** [ньне] -нні
**разгрыміро́ўвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца
**разгрыміро́ўваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць
**разгрэ́бены**
**разгрэ́бці** [пц] *зак.*, разграбу́, -бе́ш, -бе́, -бём, -бяце́,

-бу́ць; разгро́б, разгрэ́бла, -лі

**разгубі́цца** *зак.*, разгублю́ся, разгу́бішся [сься], -біцца, -бімся, -біцеся, -бяцца

**разгубі́ць** *зак.*, разгублю́, разгу́біш, -біць, -бім, -біце, -бяць, *часцей* **разгубля́ць**

**разгу́блена** *прысл.*

**разгу́бленасць** [сьць] -цю

**разгу́блены**

**разгу́блівацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца

**разгу́бліваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць

**разгубля́ць** *зак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць *і* **разгубі́ць**

**разгудзе́цца** *разм.*, *зак.*, -ду́ся, -дзе́шся [сься], -дзе́цца, -дзёмся, -дзяце́ся, -ду́цца; разгудзе́ўся, -дзе́лася, -дзе́ліся, *часцей* **разгусці́ся**

**разгу́л** -лу, -ле

**разгу́лле** [льле] *разм.*, -ллі

**разгу́льванне** [ньне] -нні

**разгу́львацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца

**разгу́льваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць

**разгу́льна** *прысл.*

**разгу́льны**

**разгультаі́цца** [айі] *і* **разгультаява́цца** *разм.*, *зак.*, *адпаведна* -а́юся, -а́ішся [сься], -а́іцца, -а́яцца; -аю́юся, -аю́ешся [сься], -аю́ецца, -аю́юцца

**разгульта́йвацца** *разм.*, *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца

**разгуля́ны**

**разгуля́цца** *зак.*, -я́юся, -я́ешся [сься], -я́ецца, -я́юцца

**разгуля́ць** *спарт.*, *зак.*, -я́ю, -я́еш, -я́е, -я́юць

**разгусці́ся** [сьці] *разм.*, *зак.*, разгуду́ся, -дзе́шся [сься], -дзе́цца, -дзёмся, -дзяце́ся, -ду́цца; разгу́ўся, разгула́ся, -ло́ся, -лі́ся *і* **разгудзе́цца**

**разгу́тарыцца** *разм.*, *зак.*, -руся, -рышся [сься], -рыцца, -рацца

**разгу́шканы**

**разгу́шкацца** *зак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца

**разгу́шкаць** *зак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць

**разгу́шкванне** [ньне] -нні

**разгу́шквацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца

**разгу́шкваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць

**раздаба́ра** *разм.*, *агульн.*, *м.* *ДМ* -ру, *Т* -рам; *ж.* *ДМ* -ры, *Т* -рай *і* -раю, *мн.* *Р* -раў

**раздаба́рваць** *разм.*, *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць

**раздаба́ры** *разм.*, -раў

**раздабрэ́лы**

**раздабрэ́ць** *зак.*, -э́ю, -э́еш, -э́е, -э́юць

**раздабыва́цца** *незак.*, -а́ецца, -а́юцца

**раздабыва́ць** *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць

**раздабы́ткі:** пайсці ў (на) раздабы́ткі

**раздабы́ты**

**раздабы́ць** *зак.*, раздабу́ду, -дзеш, -дзе, -дуць; -ы́ў, -ыла́, -ыло́, -ылі́

**раздава́нне** [ньне] -нні

**раздава́цца** *незак.*, -дае́цца, -даю́цца; *(таўсцець) разм.*, -даю́ся, -дае́шся [сься], -дае́цца, -даёмся, -даяце́ся, -даю́цца

**раздава́ць** *незак.*, -даю́, -дае́ш, -дае́, -даём, -даяце́, -даю́ць

**раздаві́ць** *зак.*, раздаўлю́, разда́віш, -віць, -вім, -віце, -вяць

**разда́дзены**

**раздажджы́цца** *разм.*, *зак.*, -ы́цца; -ы́лася

**раздаі́цца** [айі] *зак.*, -до́іцца [ойі], -до́яцца

**раздаі́ць** [айі] *зак.*, раздаю́, раздо́іш [ойі], -о́іць, -о́ім, -о́іце, -о́яць

**раздаро́жжа** -жжы

**раздары́ць** *зак.*, раздару́, раздо́рыш, -рыць, -рым, -рыце, -раць

**разда́тачная** *наз.*

**разда́тачны**

**разда́тчык** [чч] -ка, -ку, -каў

**разда́тчыца** [чч] -цы, -ц

**разда́ўлены**

**разда́цца** *зак.*, -да́сца, -даду́цца; *разм.*, разда́мся, раздасі́ся, -да́сца, -дадзі́мся, -дасце́ся [сьце], -даду́цца; -да́ўся, -дала́ся, -дало́ся, -далі́ся

**разда́ць** *зак.*, разда́м, раздасі́, -да́сць [сьць], -дадзі́м, -дасце́ [сьце], -даду́ць; -да́ў, -дала́, -дало́, -далі́

**разда́ча** -чы

**раздвае́нне** [ньне] -нні

**раздво́енасць** [сьць] -цю

**раздво́ены**

**раздво́іцца** [ойі] *зак.*, -о́юся, -о́ішся [сься], -о́іцца, -о́яцца

**раздво́іць** [ойі] *зак.*, -о́ю, -о́іш, -о́іць, -о́яць

**раздво́йванне** [ньне] -нні

**раздво́йвацца** *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца

**раздво́йваць** *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць

**раздзе́л** [зьдзе] *(частка чаго-небудзь)* -ла, -ле, -лаў; *(дзяленне)* -лу, -ле

**раздзе́ленасць** [зьдзе] [сьць] -цю

**раздзе́лены** [зьдзе]

**раздзе́львацца** [зьдзе] *незак.*, -аюся, -аешся [сься], -аецца, -аюцца, *часцей* **раздзяля́цца**

**раздзе́льваць** [зьдзе] *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць, *часцей* **раздзяля́ць**

**раздзе́льна** *прысл.*

**раздзельнапо́ласць** [зьдзе] [сьць] *біял.*, -цю

**раздзельнапо́лы** [зьдзе]

**раздзельнапялёсткавыя** [зьдзе] *бат.*, *наз.*

**раздзе́льнасць** [зьдзе] [сьць] -цю

**раздзе́льны** [зьдзе]

**раздзе́рці** [зьдзе] *зак.*, -дзяру́, -дзярэ́ш, -дзярэ́, -дзяро́м, -дзераце́, -дзяру́ць; раздзёр, раздзе́рла, -лі, *часцей* **разадра́ць**

**раздзе́рціся** [зьдзе] *зак.*, -дзяру́ся, -дзярэ́шся [сься], -дзярэ́цца, -дзяро́мся, -дзераце́ся, -дзяру́цца; раздзёрся, раздзе́рлася, -ліся, *часцей* **разадра́цца**

**раздзе́ты** [зьдзе]

**раздзе́цца** [зьдзе] *зак.*, -е́нуся, -е́нешся [сься], -е́нецца, -е́нуцца

**раздзе́ць** [зьдзе] *зак.*, -е́ну, -е́неш, -е́не, -е́нуць

**раздзёрты** [зьдзё] *часцей* **разадра́ны**

**раздзёўбаны** [зьдзё] *часцей* **раздзяўба́ны**

**раздзёўбванне** [зьдзё] [ньне] -нні

**раздзёўбвацца** [зьдзё] *незак.*, -аецца, -аюцца

**раздзёўбваць** [зьдзё] *незак.*, -аю, -аеш, -ае, -аюць

**раздзіма́льны** [зьдзі] *спец.*

**раздзіма́нне** [зьдзі] [ньне] -нні

**раздзіма́цца** [зьдзі] *незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца

**раздзіма́ць** [зьдзі] *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць

**раздзіра́нне** [зьдзі] [ньне] -нні

**раздзіра́цца** [зьдзі] *незак.*, -а́юся, -а́ешся [сься], -а́ецца, -а́юцца

**раздзіра́ць** [зьдзі] *незак.*, -а́ю, -а́еш, -а́е, -а́юць

**раздзьму́ты** [зьдзь] *часцей* **разадзьму́ты**

**раздзьму́ханы** [зьдзь]

